

# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

№ 397 Студзень 1993
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

## НАЗАД ДА ВЯЛІКАДЗЯРЖАЎНІЦТВА?

Ад пэўнага часу ў беларускім айчынным друку з узмоцненай трывогай гучаць галасы перасьцярогі перад наступам на беларускую мову кансэрватыўных элемэнтаў, якія ніяк не могуць пагадзіцца са статусам беларускай мовы, як адзінай дзяржаўнай мовы ў Беларусі. Расейскія шавіністы ўсчалі цэлую кампанію, каб дамагчыся афіцыйнага статусу і расейскай мове ў Рэспубліцы, хоць расейцаў у Беларусі налічваецца ўсяго 13 працэнтаў. Паколькі мінулыя дзесяцігодзьдзі безагляднай русыфікацыі пакінулі Беларусь ушчэнт зрусыфікаванай і паколькі беларуская мова цяпер, незважаючы на закон 1990 году аб ейным афіцыйным статусе, яшчэ вельмі слаба замацаваная ў грамадзкім ужытку, наданьне расейскай мове афіцыйнага статусу побач зь беларускай паставіць крыж на справе адраджэньня беларускае мовы й нацыянальнай сьведамасьці, а з гэтым і дзяржаўнасьці. І дзеля гэтага мы далучаем свой голас пратэсту да тых шматтысячных галасоў, якія ўжо прагучэлі на Беларусі ў абароне права беларускага народу быць свабодным ад пагрозы з боку расейшчыны, свабодным ад прымусу карыстацца ў сваім грамадзкім і дзяржаўным існаваньні моваю суседняе дзяржавы. Пагатоў, што з гэтай дзяржавай і ейнай мовай зьвязаная гісторыя паняволеньня, гвалту і крывавых перасьледаў на Беларусі як беларусаў, гэтак і ўсіх іншых этнічных групаў.

Пры гэтай нагодзе мы хочам зьвярнуць увагу Вярхоўнага Савету і ўраду Беларусі, якія, бясспрэчна, зацікаўленыя ў супрацоўніцтве і з дэмакратычным сьветам, і зь беларускай дыяспарай, што наданьне расейскай мове афіцыйнага статусу выкліча нядвузначна адмоўную рэакцыю і ў Вашынгтоне, і па ўсіх беларускіх асяродках на Захадзе. Бо кожнаму чалавеку, абазнанаму менш-больш з падзеямі ўва Ўсходняй Эўропе, ведама, што расейская мова ў нерасейскіх рэспубліках былога Савецкага Саюзу была носьбітам і прыладаю расейскага вялікадзяржаўніцтва, аўтарытарызму, дыктатуры ды заціску свабодалюбных імкненьняў паняволеных народаў. Гэта няшчасьце гэтых народаў, як і самога расейскага народу, што пераход ад каманднае эканомікі да вольнага рынку, ад дыктатуры да дэмакратыі зьвязаны зь вялікімі цяжкасьцямі і рэзкім пагоршаньнем эканамічнага стану. На гэтых цяжкасьцях спэкулююць цяпер заправілы са старой кампартыйнай эліты, што мрояць аб аднаўленьні «великой и неделимой». Яны яшчэ ня страцілі надзеі на тое, каб павярнуць назад кола гісторыі. Наданьне афіцыйнага статусу расейскай мове ў Беларусі (падобная кампанія праводзіцца цяпер і на Ўкраіне) разьлічана як першая стадыя адваёўваньня пазыцыяў, страчаных кансэрватыўна-імпэрскімі сіламі. Вонкавы сьвет, як ведама, вельмі ўважліва сочыць цяпер за ходам разьвіцьця падзеяў на тэрыторыі былой савецкай імпэрыі. Ад таго, у які бок пойдзе разьвіцьцё падзеяў, будуць залежаць і ваенныя бюджэты заходніх дзяржаваў, ступень заходнеўсходняга супрацоўніцтва й эканамічна-тэхнічнай дапамогі. І калі-б дайшло да заканадаўчага аднаўленьня дамінацыі расейскай мовы ў Беларусі, вонкавы сьвет успрыйме гэта як перамогу рэакцыі, варожай і правом чалавека, і нацыянальнаму адраджэньню беларусаў, і дэмакратызацыі, і прынцыпам вольнага рынку.

Беларускі прэм'ер Вячаслаў Кебіч у прамове на ўрачыстасці адкрыцьця першае чаргі Мірскога замку ў сьнежні летась гаварыў пра патрэбу прыцягваньня беларускай дыяспары да справы эканамічнае і культурнае адбудовы Беларусі. Амэрыканскія беларусы вельмі радыя чуць такія выказваньні дзяржаўных лідэраў Рэспублікі. Але амэрыканцы хочуць бачыць адначасна ў Беларусі і рух да ўмацаваньня дэмакратыі, да культурнае свабоды, да паслабленьня імпэрскіх і цэнтралізатарскіх імпульсаў, а не паваротнагад да старога. Пасьля таго як кансэрватыўная бальшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь патаптала закон аб рэфэрэндуме, зьігнараваўшы волю сотняў тысячаў выбаршчыкаў, адналеньне афіцыйнага статусу расейскае мовы ў Беларусі было-б страшным ударам па нацыянальным адраджэньні Беларусі, а разам з гэтым і па шансах на эканамічную паправу, якая ў вялікай меры спалучаная з наладжваньнем дзелавых кантактаў з Захадам, упаасобку з Амэрыкай, з амэрыканскімі беларусамі.

Трэба спадзявацца дзеля гэтага, што Парлямэнт і Ўрад Беларусі дастаткова арыентуюцца ў міжнародным кліменце, каб не дапусьціць да ўмацаваньня пазыцыяў расейскае рэакцыі ў Беларусі і гэтым ня спрыяць росту міжнароднага напружаньня, а разам з гэтым і росту перашкодаў на шляху да выйсьця з эканамічнага крызісу.

**Рэдакцыя газэты «Беларус»**

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

Закон аб прыватызацыі дзяржаўнай маемасьці ў Беларусі ўвойдзе ў сілу 1-га ліпеня сёлета. Грамадзянам будуць раздадзеныя г. зв. ваўчэры (пасьветкі) на маемасьць. Кожны ваўчэр будзе варты 0,17 квадратнага мэтра жылплошчы і 0,2 гэктара зямлі (або 819 рублёў у дзяржаўных цэнах 1991 году). Мяркуецца, што грамадзяне ад 35-гадовага веку і старэйшыя дастануць па 50 пасьветак, тыя, што ў веку ад 30 да 35 гадоў — па 40, а малодшым, з 25 да 30 гадоў будзе дадзена па 30 ваўчэраў. Дзеці ніжэй 16-гадовага веку дастануць па 10 пасьветак. Вэтэранам будзе дадзена наўзьверх па адным ваўчэры за кожны год службы. (FBIS 20/XI92).

**THE WHITE HOUSE**
WASHINGTON

January 7, 1993

Dear Mr. Shukeloyts:

Having known of your support for the President's policy initiatives over the years, I wanted to take this final opportunity to thank you for all of your assistance. This past year we gave it our best effort but unfortunately came up short. As the President has stated, our goal now is to work towards a smooth transition to a new Administration.

History will record George Bush as one of America's finest Presidents and certainly one of the greatest world leaders of our time. With George Bush's experienced hand at the tiller, the Berlin Wall has fallen, and the Soviet Union and imperial communism have crumbled. Democracy and free markets are rising from the rubble as we Americans reflect with great pride upon the historical achievements and the unprecedented strides made under President Bush.

It has been a tremendous honor for me to serve President Bush an to work with people like you. Your dedication and diligence have truly been an inspiration, and I look forward to working with you in the future. You have made a difference. I thank you for your commitment, your hospitality, and your support.

Again, thank you for all that you have done in support of our President. May God bless you and your family in the new year.

Sincerely,
Jim Schaefer Associate Director, Office of Public Liaison

*Разьвітальны ліст зь Белага Дому Прэзыдэнта Джорджа Буша да старшыні БАЗА сп. А. Шукелойця.*

## ЯК МЕНСК (ПРАЗ МАСКВУ?) «ІНФАРМУЕ» СЬВЕТ АБ БЕЛАРУСІ

Хоць Беларусь і мае Міністэрства Інфармацыі, зь інфармаваньнем вонкавага сьвету пра сябе ў Рэспубліцы, мякка кажучы, справы дрэнь. Як выяўляецца, для некаторых менскіх чыноўнікаў афіцыйная мова ў Рэспубліцы Беларусь — усё ячшэ расейская, і толькі. Гэтак яны і заявілі ў сваёй інфармацыі, пададзенай у гадавік Аб'еднаных Нацыяў, які цяпер пашыраецца па цэлым сьвеце (дарэчы, прадстаўніцтва Беларусі пры ААН да гэтай справы ніякага дачыненьня ня мела). Даведнік англамоўны. Ягоны загаловак: World Press 1992. Афіцыйнае выданьне ААН. На старонка 41-44 зьмешчаная інфармацыя пра Беларусь. Лік жыхароў рэспублікі пададзены: 10.108.000. Але графа пра гарадзкое і сельскае насельніцтва засталася пустой — у гультаяватага чыноўніка ўжо не хапіла духу адказаць на гэтае пытаньне (у 1991 годзе ў Беларусі было 67 працэнтаў гараджанаў і 33 працэнты сельскіх жыхароў). Неадказаным засталося пытаньне і пра колькасьць тэлефонаў у Беларусі.

На пытаньне «Афіцыйная /-ыя/ мова /-ы/» адказ чорным па белым: расейская. І ніякіх іншых! Ці гэта нахлюйства, ці сабатаж, хай разьбяруцца спадары міністры. Разьбірацца-ж ёсьць у чым, апрача пытаньня пра афіцыйную мову. Інфармацыя, якую прыслалі зь Менску (праз Маскву?) у Нью-Ёрк падрыхтаваная наагул неахайна. Мяркуючы паводля ўсяго, дадзеныя былі прысланыя па-ангельску. Але з ангельскай мовай, як і з акуратнасьцяй, у аўтараў інфармацыі ня ўсё ладна. Яны ня ведаюць розьніцы паміж biweekly (двутыднёк, раз на два тыдні) і semiweekly (паўтыднёвік, два разы на тыдзень). Гэтак, «Настаўніцкая газета», якая выходзіць двойчы на тыдзень, пададзеная ў даведніку ААН як двутыднёвік. Газэта «Свабода», месячнік у 1991-1992 гадах, пададзеная як двутыднёвік. На старонках аанаўскага даведніка жыве нябожчыца Белта (сёньняшні Белінфарм).

Іншыя недакладнасьці маглі прыйсьці зь Менску (з Масквы?), а могуць быць і ньюёркскага паходжаньня карэктарскі недагляд: з памылкай пададзена прозьвішча рэдактара «Голасу Радзімы». В. Мацкевіча, якога перарабілі ў Міцкевіча; рэдактар «Свабоды» І. Германчук названы Грэменчуком, газэта «Чырвоная змена» фігуруе як «Чыровная змена».

У канцы аанаўскай «інфармацыі» пра Беларусь стаіць гэткая даведка: UNITED NATIONS. UN Information Centre — Russian Federation і пададзены маскоўскі адрас: 4/16 вул. Луначарскага, Масква 121002. Кантактаваць: Бойка М. Тарабанаў, дырэктар. Факс: 230-2138, тэлефон: (095) 241-2894. І тут-жа зазначэньне: Service to: Belarus, Russian Federation, Ukraine (абслуга Беларусі, Расейскай Фэдэрацыі, Украіны).

Ня выключаная магчымасьць, што інфармацыя пра Беларусь была прысланая ў аанаўскі даведнік з Масквы. Але хіба-ж у Маскву яна прыбыла зь Менску. Як-бы там ні было, сытуацыя скандальная, якая ўздымае шэраг пытаньняў: На кім ляжыць адказнасьць даваць праўдзівую інфармацыю пра Рэспубліку Беларусь? Якая ў гэтым роля Міністэрства інфармацыі, Міністэрства замежных спраў і Місіі РБ пры ААН? Чаму ў інфармацыйнай абслузе, заміж маскоўскага адрасу, ня можа быць пададзены адрас менскі?

Прыклад з аанаўскім даведнікам World Press 1992 лішні раз паказвае, што праз маскоўскія вароты ані цэлым, ані акуратным у сьвет ня выйдзеш.

**Янка Запруднік**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў БРУСЭЛІ

На запросіны Эўрапейскага Парляманту (ЭП) прыбыла 7-га сьнежня 1992 г. зь Менску ў Брусэлю беларуская дэлегацыя ў складзе народнага дэпутата Зянона Пазьняка, старшыні Беларускага Народнага Фронту, сп. Юрыя Хадыкі, заступніка старшыні БНФ, народнага дэпутата Лявона Баршчэўскага і сп. Пятра Сілкі, старшыні й каардынатара Беларускае Хрысьціянска-Дэмакратычнае Злучнасьці. Гэта ўжо другі візыт у Бэльгію гэтае дэлегацыі (пра першы, у верасьні летась, гл. «Беларус» № 394).

Сп. Пазьняк выступіў перад ЭП з дакладам, у якім лідэр дэмакратычнай апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі гаварыў пра супрацьзаконную забарону правядзеньня рэфэрэндуму ў Беларусі.

Лео Тындэманс, старшыня хрысьціянскіх партыяў ЭП, паабяцаў прадставіць на наступнай сэсіі ЭП, які засядае ў Штрасбургу (Францыя), перададзеную яму беларускай дэлегацыяй рэзалюцыю.

Карыстаючы з нагоды побыту ў Брусэлі беларускай дэлегацыі, аўтар гэтых радкоў наладзіў (і быў перакладчыкам) 12 сьнежня інтэрв'ю сп. Пазьняка з журналістам бэльгійскай газэты De Standaard сп. Фрэдам дэ Паў, ведамым сваймі ранейшымі артыкуламі пра Беларусь, а таксама сваёй кніжкай «Нацыі безь дзяржаваў». Выданьне газэты за 18 сьнежня зьмясьціла абшырны пераказ зьместу інтэрв'ю. Пад загалоўкам (словы Пазьняка) «Намэнклятура ў Беларусі моцна ўчапілася за ўладу», у артыкуле выясьняецца сёньняшняя сытуацыя ў Беларусі, расказваецца пра рэфэрэндум, пра сталінскія злачынствы на Беларусі, пра Курапаты.

«Як сьцьвярджаюць Зянон Пазьняк і Юры Хадыка, — піша газэта, — старая намэнклятура дзеіць па-старому далей. Яна намагаецца як найбольш разграбіць дзяржаўную маемасьць для свайго ўжытку і аддаліць правядзеньне рэформаў, патрэбных для ўвядзеньня рынкавай эканомікі. Прыватызацыя не дапушчаецца нідзе, нават у сельскай гаспадарцы. Сяляне не атрымліваюць уласнае зямлі — яны надалей працуюць у калгасах».

Старшыня БНФ дадаў, што з усіх рэспублік былога Савецкага Саюзу Беларусь эканамічна стаіць найлепш на нагах, як пра гэта было нядаўна зазначана ў справаздачы Аб'еднаных Нацыяў. Але-ж, паводля яго, гэта вынік працавітасьці беларусаў, якія зрабілі сваю рэспубліку найбольш заможнай з усяго Савецкага Саюзу.

«Бюракраты тармозяць разьвіцьцё, сказаў Пазьняк, — піша газэта. — Мы хочам як найхутчэй іх адхіліць ад улады і таму арганізавалі кампанію за рэфэрэндум. Паводле закону, 350.000 подпісаў хапае, каб правесьці рэфэрэндум, але бюркратычная бальшыня ў парлямэнце фармальна топча гэты заон. Народны Фронт поўнасьцю трымае сябе ў рамках закону. Мы не жадаем ніякіх авантураў, якія-б давялі да небясьпекі, як гэта можна бачыць па напружанай сытуацыі на Ўкраіне і ў Расеі. Таму мы шукаем падтрымкі на Захадзе... Ма спадзяёмся таксама на падтрымку сацыял-дэмакратаў Беларусі, якія стаяць за рэфэрэндум».

Бэльгійская газэта падала таксама пра выказваньні Пазьняка як «аўтарытэтнага гісторыка». Сп. Пазьняк гаварыў пра намаганьні расейцаў і палякоў сьцерці беларускую мінуўшчыну; пра дамінуючае палажэньне беларускай культуры ў Вялікім Княстве Літоўскім, этнацыдную палітыку расейскіх цароў, права беларусаў на сваю багатую гістарычную спадчыну. Пры гэтым сп. Пазьняк зазначыў, што БНФ стараецца ўсімі сіламі падтрымліваць як найлепшыя дачыненьні з усімі суседзямі. Гаворачы пра Польшчу, Пазьняк прыгадаў пэрыяд 1921-1939 гадоў, калі Варшава вяла палітыку паланізацыі, у сувязі зь якой яшчэ й сёньня ёсьць польскія шавіністы, што сьняць аб дамінацыі на Беларусі. З гэтай мэтай яны, прыкладам, пасылаюць каталіцкіх сьвятароў-палякаў у Беларусь, каб надаць польскі характар касьцёлам на Беларусі. Але пасьля двух пакаленьняў, зазначыў З. Пазьняк, мала засталася ўжо тых, якія знаюць польскую мову. Таму няма тут і небясьпекі.

З Расеяй сытуацыя крыху больш далікатная. «Праваслаўная царква на Беларусі, цьвердзіць Пазьняк, да сёньняшняга дня падпарадкаваная маскоўскай уладзе. Мы імкнёмся да Беларускае Праваслаўнае Царквы, поўнасьцю незалежнае. Расейскі шавінізм, кажа лідэр апазыцыі, — піша газэта, — зьяўляецца вялікай пагрозай для Беларусі. Небясьпека ўзрастае. Падзеі ў Расеі, дзе нацыяналізм усё больш узмацняецца, выклікаюць моцную трывогу. Частка расейцаў, якія на Беларусі становяць каля 12 працэнтаў жыхарства, выкарыстоўваюцца, паводле Пазьняка, расейскімі шавіністамі, якія мараць аб адраджэньні Вялікай Расеі.

«Але ёсьць і ляяльныя расейцы, зазначыў Пазьняк,яны хочуць жыць і працаваць у супакоі на Беларусі. Некаторыя зь іх вывучаюць беларускую мову і больш ляяльныя, чымся зрусыфікаваныя беларусы».

У сыботу 12-га сьнежня адбылася ў памешканьні сп-ні Зоі Смаршчок сустрэча дэлегатаў зь беларусамі Бэльгіі, якая прайшла ў прыемнай цёплай атмасфэры.

**Я. Жучка**

## ПАСОЛЬСТВЫ І КАНСУЛЯТЫ РБ

Як падало маскоўскае прэсавае агенцтва Інтэрфакс 11 лістапада, прэм'ер Беларусі Вячаслаў Кебіч падпісаў дакумэнт, паводля якога Беларусь адчыніць да канца 1992 году свае пасольствы й консуляты ў Расеі, Нямеччыне, Аўстрыі, Францыі, Італіі, Швайцарыі, Швэдыі, Кітаі, Індыі, Казахстане, Латвіі, Летуве і Украіне. (FBIS 12/XI)

# ЗВАРОТ ДА РАДЫ МІНІСТРАЎ І ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Шаноўныя Гаспадары!

На працягу амаль поўстагодзьдзя Беларуская нацыянальна сьведамая эміграцыя, зь непахіснай верай у лепшую будучыню вольнай Беларускай Рэспублікі, шанавала і перахоўвала нацыянальныя гістарычныя і культурныя традыцыі.

Праз увесь час жыцьця на чужыне беларуская грамадзкасьць ня страціла пачуцьця сваёй еднасьці са шматпакутным Беларускім Народам і з гонарам несла ў шырокі сьвет інфармацыю пра барацьбу Беларускага Народу за права быць роўным паміж роўнымі ў сусьветнай сям'і народаў.

Нашы бел-чырвона-белыя сьцягі з гонарам шугалі на міжнародных канфэрэнцыях і зьездах, на маладзежных і скаўцкіх сустрэчах, на спартыўных спаборніцтвах, на публічных дэманстрацыях і на беларускіх нацыянальных урачыстасьцях.

З асабліва вялікай пашанай мы адносіліся і адносімся да гістарычнага сымбалю нашай слаўнай мінуўшчыны і самабытнасьці, да нашага гэрбу «Пагоня». Нашыя далёкія гэраічныя продкі пакінулі нам «Пагоню» ў спадчыну з пэўнымі гэральдычнымі формамі і прыкметамі, як пуцяводную паходню ў будучыню. Гэты старажытны сьвяты сымбаль нашай незалежнасьці ніхто ня мае права ні скажаць, ні пераіначуваць, ні падмяняць.

Пагэтаму мы ўстрывожаны тым, што сучасны Урад Рэспублікі Беларусь ужывае як гэрб Рэспублікі Беларусь выяву коньніка з Латарынгскім крыжам на шчыце, а гэта ні ў якім разе не «Пагоня». Сапраўдная старажытная «Пагоня» мае на шчыце Ярылаў крыж ці, як яго часам называюць, «двукрыжжа» з шасьцю роўнымі канцамі.

Нас дзівіць і непакоіць: Што мае супольнага з нашай «Пагоняй» сымболіка далёкай ад Беларусі як культурна, так і гістарычна Латарынгіі? Нідзе і ніколі гэты Латарынгскі крыж не красаваўся на шчытах «Пагоні», ні Вялікага Княства Літоўскага, ні на «Пагонях» старажытных гэрбоў шматлікіх гарадоў Беларусі. Падобны да Латарынгскага крыж існуе ў сымболіцы Славакіі; таксама крыж Сьвятой Ефрасініі Полацкай вельмі падобны да Латарынгскага крыжа, але ня зусім такі. Аднак справа ня ў гэтым, а ў тым, што ні Латарынгія, ні Славакія, ні Ефрасіньня Полацкая, ні тым болей князь Ягайла, ня мелі ніякага дачыненьня да гэральдычнага фармаваньня «Пагоні».

Пагэтаму мы, прадстаўнікі Беларускага замежжа, зьвяртаемся да Вас, шаноўныя Гаспадары з Рады Міністраў і Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, з заклікам: Неадкладна перагледзець гэтую справу і выправіць закраўшуюся недарэчную памылку, дзеля захаваньня нацыянальнага гонару і гістарычнай спадчыны. Хопіць таго, што нашы суседзі з усіх бакоў абкрадалі нас на працягу стагодзьдзяў, давайце ня будзем абкрадаць самі сябе!

На заканчэньне трэба дадаць, што мы абсалютна ўпэўнены, што кожны нацыянальна сьведамы беларус, незалежна ад свайго месца жыхарства, зьдзіўлены і заклапочаны гэтым незразумелым і недарэчным падыходам да нацыянальнай сымболікі.

Выказваем Вам падзяку загадзе за пазытыўнае вырашэньне гэтага пытаньня!

Не забывайце, што воляй Лёсу на Вас узложана вялізарная адказнасьць перад Гісторыяй Беларускай Нацыі!

Жыве Беларусь!

**Мэльбурн, Аўстралія, 23 лістапада 1992 г.**

**Палк. Ул. Шнэк**
За Беларускі Вызвольны Фронт

**П. Гуз**
За Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыіі

**Інж.-Лейт. А. Шнэк**
За Выдавецтва БВФ «На Варце»

**Р. Шайпак**
За Беларускі Каапэратыў у Мэльбурне

**А. Груша**
За Фэдэральную Раду Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі

**а. М. Бурнос**
Ад парафіі Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла БАПЦ у Адэлаідзе

**М. Нікан**
БНР

**Ул. Сідлярэвіч**
Ад Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля

*Адкрыты ліст*

## ХТО БАНДЫТ, А ХТО ГЭРОЙ?

Паважаны Сп. Шыркоўскі!

Нядаўна трапіў мне ў рукі нумар газэты «Набат», у якім было інтэрв'ю з Вамі й Вашым заступнікам сп. Левіцкім. Мушу Вам прызнацца, што калі чытаў яго, я быў вельмі ўсхваляваны Вашай турботай аб лёсе нашай эміграцыі. Відаць, што апошніх пару гадоў зрабілі пэўны ўплыў і на КДБ. Цяжка паверыць, што КДБ — гэта спадкаемца слаўтага НКВД. Пэўна-ж, абставіны мяняюцца, людзі мяняюцца, прыходзяць новыя ідэі, і Вам таксама даводзіцца дапасавацца да гэтых новых абставінаў. Адак, калі пытаньне дайшло да беларускіх патрыётаў, якія апынуліся на іншым баку барыкадаў, дык у Вас праявіўся амаль спантанічна погляд таго НКВД, якое лічыла ворагамі ўсіх тых, хто змагаўся словамі ці зброяй супраць праступнага, крымінальнага рэжыму былога Савецкага Саюзу ды расейскага імпэрыялізму. Калі дайшло пытаньне да Янкі Філістовіча, дык паводле Вас ён аказаўся бандытам. Цікавая аналёгія: для Мураўёва Кастусь Каліноўскі таксама быў бандытам, які загінуў на шыбеніцы, бо ён адважыўся выступіць супраць царскага акупацыйнага рэжыму. Загінулі слуцкія паўстанцы. Загінулі мільёны беларускіх патрыётаў толькі за тое, што дамагаліся ня больш, як таго, што ў часе галоснасьці ды перабудовы сталася натуральным правам чалавека.

Янка Філістовіч мог спакойна сядзець на эміграцыі ды есьці белы хлеб. Аднак ён адмовіўся ад гэтага жыцьця. «Маё месца з маім народам», сказаў ён перад адыходам. «Я не магу жыць тут у роскашы, калі мой народ церпіць». Ніякая сіла не магла яго спыніць.

Сп. Шыркоўскі, не за грошы ён пайшоў амаль на пэўную сьмерць. Не бандыт ён, як яго хочаце прадставіць, а нацыянальны гэрой. Магчыма, Вам цяжка гэта зразумець. Гэта воляты нашага народу. Памяць аб іх застанецца ў

*(Працяг на 5-й ст.)*

# УГОДКІ СЛУЦКАЙ АБАРОНЫ БНР

## ГАЙЛЕНД-ПАРК, ЗША

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, як і штагоду, адзначыла сёлета ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. У сыботу 28 лістапада на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку вэтэраны ўсклалі вянок ля помніка Беларускім Гэроям і ўдэкаравалі бел-чырвона-белымі сьцягамі магілы.

У нядзелю ў Гайленд-Парку ў царкве Жыровіцкай Божай Маці пасьля сьв. літургіі а. Васіль адслужыў урачыстую паніхіду, якая закончылася прасьпяваньнем жалобнае песьні «Сьпі пад курганам гэрояў». У сьцяжной варце стаялі вэтэраны Віктар Дубяга, Мікола Абрамчык і Ўладзімер Машанскі. Хорам кіраваў малады рэгент Генадзь Дубяга.

Перад пачаткам акадэміі ў залі цэнтру спадарычні Таіса й Эля Андрэюк прышпілілі кожнаму з прысутных бел-чырвона-белую істужачку. Акадэмію адчыніў старшыня ЗБАВ маёр Сягрей Гутырчык, прывітаўшы Старшыню Рады БНР др. Язэпа Сажыча, сп. Янку Сурвілу з Канады і ўсіх гасьцей. Сп. Лявон Шурак сказаў прывітаньне амэрыканскаму сьцягу. Урачыстасьць вёў далей сп. Міхась Тулейка. Па адсьпяваньні «Беларусь наша Маці-Краіна» вітаў сход Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч. Было прачытанае прывітаньне ад рэдактара вэтэранскага часапісу «Зважай» сп. Кастуся Акулы. Старшыня БАЗА сп. Антон Шукелайць прачытаў тэкст прывітаньня, высланага ад БАЗА Згуртаваньню Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» для ўдзельнікаў адзначэньня ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ў Беларусі. Падобныя прывітаньні выслалі ў Беларусь Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі, Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі і іншыя арганізацыі.

Даклад на тэму дня — пра любоў да роднага краю, якая праз сьмерць нараджае жыцьцё («Пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына») — прачытаў др. Янка Запруднік. Прамоўца адзначыў вялізарную важнасьць для псыхалягічнага адраджэньня беларусаў факту адкрытага ўшаноўваньня памяці слуцкіх паўстанцаў на Бацькаўшчыне.

Сп. Запруднік сказаў, што так як у часе збройнага змаганьня найвышэйшую якасьць чалавека вызначае ягоная гатовасьць ахвяраваць сваё жыцьцё, гэтак у мірным часе высокія якасьці асобы вызначае штадзённая працавітасьць на грамадзкай ніве. Як прыклад гэткага працавітага чалавека, Запруднік назваў сп. Браніслава Даніловіча, шматгадовага пашыральніка беларускага друкаванага слова. Яшчэ на Бацькаўшчыне, жыўшы ў сваёй роднай в. Гайлешы, што каля Крэва, 14-гадовым хлапчуком Браніслаў Даніловіч пасябраваў зь беларускім друкаваным словам і чытаў гамадзе пры выхадзе з царквы ці касьцёла з часапісу «Шлях Моладзі». У Нямеччыне да выезду ў Амэрыку ў 1950 годзе пашыраў газэту «Бацькаўшчына», а прыехаўшы ў Злучаныя Штаты, стаўся руплівым прадстаўніком газэты «Беларус».

20 лістапада летась сп. Даніловічу пайшоў 85-ты год жыцьця, але ён і далей, перамагаючы нядужасьць, зьвязаную зь векам, шчыра працуе найбольш плённым прадстаўніком газэты «Беларус». Словы гэтыя паслужылі ўступам для сп. Янкі Азаркі, які выканаў просьбу-даручэньне старшыні Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» сп. Яўгена Лецкі, і перадаў ад «Бацькаўшчыны» сп. Б. Даніловічу слуцкі пояс, апаясаўшы ім юбіляра праз плячо, у знак ягонае заслужанасьці на грамадзкай ніве.



*Браніслаў Даніловіч з узнагародаю — слуцкім поясам.*

Сп-ня Ірэна Цупрык прыгожа прадэклямавала два патрыятычныя вершы Ўладзімера Караткевіча. Сп-ня Тамара Януш прачытала свой верш «Ажыла Беларусь». Паэт-бард Сяржук Сокалаў-Воюш выканаў пад гітару дзьве свае песьні. Пётра Нядзьвецкі прасьпяваў пад акардыён колькі сваіх песьняў, а ягоная шырака ведамая яшчэ з часоў вайны «Ідуць жаўнеры-беларусы» прагучэла ў дружным супольным вакнаньні.

Шмат хто ў залі меў нагоду набыць тую ці іншую кніжку ад др. Вітаўта Кіпеля, дбайлівага пашыральніка беларускіх выданьняў, або перадаць яму ахвяру на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Сп. Гутырчык шчыра падзякаваў усім удзельнікам урачыстасьці, а таксама сп. Алегу Дубягу за прыгатаваньне перакускі.

## ЛЁНДАН, АНГЛІЯ

Сьвяткаваньне, арганізаванае галоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ), адбылося ў сыботу 28-га лістапада ў залі пры Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Сп. Янка Міхалюк, старшыня ЗБВБ, прывітаў прысутных, сярод якіх былі госьці зь Беларусі і Беласточчыны.

З рэфэратам на тэму дня выступіў сп. А. Зданковіч, які насьвятліў гістарычны працэс, запачаткаваны Кастусём Каліноўскім. Кульмінацыйным мамэнтам гэтага руху было абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Маскоўскі бальшавізм супраціўстаяў свабодзе беларусаў у іх выбары рэформаў на ўладаньне зямлёй, на законы, якія забясьпечвалі-б правы гэтага народу. Гэта спрычынілася да збройнага супраціву з боку нацыянальна сьведамага грамадзтва Случчыны. А былі й ранейшыя паўстані ў Вяліжы ў 1918 г., на Гомельшчыне ў 1919 г. і двойчы паўставаў гор. Барысаў супроць расейскага бальшавізму.

Каб шырэй уявіць зьнішчальную палітыку Масквы на Беларусі, сказаў дакладчык, варта сучаснаму пакаленьню прачытаць кніжку Аўгена Калубовіча «На крыжовай дарозе».

Сымбалем ахвяраў бальшавізму ў 1970-ыя гады аказаўся, сярод іншых, вязень сумленьня Міхась Кукабака.

Дакладчык зачытаў прывітальныя лісты: ад старшыні Беларускай Цэнтральнай Рады з Аўстраліі сп. М. Зуя і ад Цэнтральнага Камітэту Беларусаў штату Вікторыя ў Аўстралія (старш. П. Гуз).

Сп. Я. Міхалюк зачытаў прывітальны ліст, прысланы зь Менску ад Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і ад Згуртаваньня беларускіх вайскоўцаў:

Хвілінай цішыні ўшанавалі памяць тых, хто загінуў, каб жыла Бацькаўшчына.

З прамовай выступіў праф. Дж. Дынглі. Ён адначасна паведаміў аб сумнай вестцы зь Беларусі, аб традчасный сьмерці выдатнага вучонага й дзеяча, аднаго з заснавальнікаў Сацыял-дэмакратычнай партыі др. Міхася Ткачова, памяць якога была ўшанаваная хвілінай цішыні.

На тэму сучаснай сытуацыі на Беларусі гаварыў а. А. Надсон. Ён выказаўся крытычна адносна дзяржаўнай палітыкі ў Беларусі, дзе хоць і ёсьць прызнакі палепшаньня ў школах зь беларускай мовай, аднак гэты працэс ідзе вельмі павольна. Шырэйшаму агляду паддаў ён сучасны стан людзей, што церпяць ад чарнобыльскай радыяцыі. Патрэба дапамогі, сказаў а. Надсон, застаецца справай вельмі актуальнай.

У мастацкай частцы былі прачытаныя тры вершы Алеся Змагара (чытала сп-чна Эля Зянькова) і верш А. Дрыгвіча (прачытаны аўтарам гэтых радкоў). Радаснай неспадзеўкай было выступленьне музыканка-песьняра зь Беласточчыны сп. Слаўкі Трафімюка, які, граючы на электранічных арганах, прасьпяваў тры песьні.

Адсьпяваньнем «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» афіцыянальная частка ўрачыстасьці была закончана.

Сп. Я. Міхалюк запрасіў усіх прысутных на пачастунак, які быў вельмі старанна падтрыхаваны др. Ірынай Гурло з дапамогай спсп. В. Мартычныка, А. Казлоўскага і У. Савіцкага.

У часе перакускі прысутныя пачулі яшчэ некалькі мэлёдый у выкананьні Слаўкі Трафімюка ды супольна зь ім прапаялі «Люблю наш край» і «Ідуць жаўнеры беларусы».

**А. Зданковіч**

**Сяржук Сокалаў-Воюш**

* * *

**Браніславу Даніловічу**

Ад першага зьвязу да сёньняшніх дзён
Жыцьцё, як вальковае поле,
Ці ты зразумееш яго, маладзён,
Народжаны маткай на волі?

Ці ты ў незалежніцкіх межах сваіх
Адкінеш бацькоў забабоны
І раптам уявіш вас разам — дваіх
На сьцежцы да родных загонаў?

Дзе лопае крыльлем галодны груган
Над спляжаным целам Айчыны,
Дзе зеўраць, як прорвы скрываўленых ран,
Адзнакі чужацкага чыну,

Дзе полым Пагоні над краем відзён,
Дзе шчэрацца рулямі доты,
Дзе важна было зразумець, маладзён,
Ня з кім ты ідзеш, а за што ты...

*********************

**ПРАПРАЎКА:**

Вітаючы сп. Б. Даніловіча ў № 395 «Беларуса» зь ягоным юбілеем, мы дапусьцілі памылку, якую тут выпраўляем: нарадзіўся ён 20 лістапада і яму пайшоў 85-ты год жыцьця. Выбачаемся і яшчэ раз жадаем усяго найлепшага!
**— Рэдакцыя «Беларуса»**

## ТАРОНТА, КАНАДА

Дзень Гэрояў Беларусі, або ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну былі адзначаныя 29 лістапада. Пахмурнае надвор'е надавала адпаведнага настрою, але дзень быў добры для далейшых, бо дарогі былі сухія і такім чынам на сьвяткаваньне сабралася даволі вялікая грамада нашых суродзічаў. Былі тут сівыя вэтэраны, сярэдняга і маладога веку, беларусы зь Беластоцкага Краю і таксама новыя бежанцы-іміграньты мянчукі і іншыя, якія ня так даўно пакінулі Бацькаўшчыну і рознымі дарогамі апынуліся ў Канадзе. Даволі вялікая частка зь іх упяршыню брала ўдзел у такой імпрэзе і першы раз чулі пра збройнае змаганьне случчакоў у абароне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1920 годзе.

Сьвяткаваньне пачалося архірэйскай багаслужбай у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага. Невялікі хор вельмі старанна прычыняўся, каб гэты дзень быў іншым ад кожнай нядзелі. Уладыка Мікалай падрыхтаваў надзвычайна добрую прынагодную казань на тэму дня. Была адслужаная паніхіда па ўсіх тых, хто аддаў сваё жыцьцё за Беларусь. Шматлікая грамада вернікаў з сьцяганосцамі сапраўды надавала ўрачыстасьці характар малітве і павагу гэтаму дню.

Пасьля багаслужбы й перакускі адбылася кароткая акадэмія. Адкрыцьцё і ўступнае слова сказаў старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады Мікола Ганько і прачытаў сымбалічны сьпісак Гэрояў Беларусі. Пасьля хвіліны цішыні прагучэў жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў...».

Даклад на тэму дня прачытаў сп. Валерыян Навіцкі й мо ўпяршыню падаў некаторыя факты, ведамыя толькі случчаку з паходжаньня, пра ход Слуцкага Збройнага Чыну і яго значэньне для беларускай вызвольнай справы. Было прачытанае прывітаньне ад старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Раісы Жук-Грышкевіч, якая была ў гэты дзень у Нью-Ёрку, і прывітаньне да ўдзельнікаў сьвяткаваньня Слуцкага Збройнага Чыну ў Беларусі, што было выслана ад імя ЗБК на рукі Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і Згуртаваньня беларускіх вайскоўцаў, якія адзначалі ўгодкі ў сыботу 28 лістапада.

Падзякай усім удзельнікам і арганізатарам сьвяткаваньня старшыня ЗБК закончыў урачыстасьць, а прысутныя адсьпявалі марш случчакоў — беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Сёлетняе сьвята было шматлюднае як ніколі мо з тэй прычыны, што нават менш актыўныя суродзічы пачуліся да абавязку ізноў лучыцца з Бацькаўшчынай, падтрымоўваючы свае нацыянальныя традыцыі. Усім шчыры дзякуй.

**Мікола Ганько**

## КЛІЎЛЕНД, ЗША

Аддзел Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Кліўлендзе адзначыў 72-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня 29 лістапада. Пасьля сьв. Літургіі ў царкве Жыровіцкае Божае Маці была адслужана паніхіда па загінуўшых змагарох, якую адправіў прат. Міхась Страпко зь іераманахам Якубам. Пасьля службы ў царкоўнай залі адбыўся супольны абед.

Сьвяткавальную праграму адкрыў сакратар аддзелу вэтэранаў Кастусь Калоша. Быў адсьпяваны супольна

*(Працяг на 4-й ст.)*

# УГОДКІ СЛУЦКАЙ АБАРОНЫ БНР

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

амэрыканскі гімн, а затым Тацьцяна Кананчук і Іра Врэціц (Трацякова) злажылі вянок кветак на сымбалічную магілу. Усе разам адсьпявалі жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў».

Рэфэрат на тэму дня прачытаў Міхась Белямук. Ён расказаў коратка пра арганізацыю Слуцкага паўстаньня пад кіраўніцтвам ураду БНР, пра ход самога змаганьня і нешчасьлівы ўпадак яго. Дакладчык падкрэсьліў, што ня толькі на Случчыне ішло змаганьне, але было шмат меншых паўстаньняў у паветах Полацкім, Віцебскім, Лепельскім ды шмат якіх іншых. Пасьля доля ўсіх тых паўстанцаў была вельмі трагічная. Ён паведаміў таксама, што на Бацькаўшчыне сёлета, многія арганізацыі, клюбы першы раз сьвяткуюць угодкі Слуцкага паўстаньня больш пашырана й адкрыта. Вестка гэтая вельмі спадабалася ўсім прысутным.

Затым К. Калоша прывітаў гасьцей зь Беларусі й шчыра падзякаваў М. Белямуку за цікавы рэфэрат, падкрэсьліўшы, што Слуцкія ўгодкі эміграцыя адзначала праз цэлы час, і гэтая праца не пайшла надарма — традыцыя гэтая ажыла цяпер і на Бацькаўшчыне.

У мастацкай частцы праграмы выступіў жаночы хор «Васілёк» пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч і пад акампанемэнт Олі Макдэрмат (Дубаневіч). У нацыянальных касьцюмах харысткі вельмі прыгожа й сцэнічна выканалі песьні: «Слуцкія ткачыхі», «Поле ты, поле», «Я ад вас далёка» і дуэтам (Оля Лукашэвіч і Люба Блізьнюк) «Палескія прасторы».

Праграма закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**К.П.**

## ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

Як і раней, сёлетняе адзначэньне ўгодкаў Слуцкага Чыну было арганізована ўправай Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі. У праграме сьвяткаваньня была багаслужба, два даклады і пачастунак. Пасьля службы Божай, якая адпраўляецца кожную другую нядзелю ў царкве Сьвятое Марыі, настаяцель прыходу Жыровіцкай Божай Маці а. Уладзімер адправіў паніхіду за ўсіх беларусаў і беларусак, што аддалі сваё жыцьцё, каб беларускі народ быў вольным, а Беларусь незалежнай. У часе служэньня паніхіды сьпяваў хор пад кіраўніцтвам матушкі Ірыны. Паводля заплянованай праграмы, працяг сьвяткаваньня меўся адбыцца ў Кінгс Парку, але дзеля неадпаведнага надвор'я ўсе прысутныя ў царкве паехалі ў Беларускі Народны Дом у Байсвотэр.

У залі БНД прысутных вітаў старшыня БАЎЗА сп. Міхась Раецкі малодшы і прытым коратка паінфармаваў дзеля чаго сабраліся, бо між удзельнікаў сьвяткаваньня былі і такія, што аб Слуцкім змаганьні ніколі ня чулі. У сваім дакладзе па-ангельску ён расказаў аб тым, што прывяло да Слуцкага ўздыму, аб паразах і лёсе змагароў Слуцкай брыгады. Аб значэньні Слуцкага змаганьня ў далейшай гісторыі Беларусі даклад зрабіў Р.М. Воплескі дакладчыкам сьветчылі, што слухачы былі імі зацікаўленыя.

У часе пачастунку абмяркоўваліся розныя праблемы, сярод якіх найбольшая ўвага прысьвячалася палітычнаму становішчу на Беларусі.

**Р.М.**

## СЫДНЭЙ, АЎСТРАЛІЯ



*Мамэнт багаслужбы ў праваслаўнай царкве ў Сыднэі*

Беларусы Сыднэю й ваколіцаў адзначылі 29 лістапада дзьве важныя гістарычныя падзеі: 75-я ўгодкі 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу і 72-я ўгодкі Слуцкай Абароны. У гомбушскай праваслаўнай царкве быў адслужаны малебен за беларускі народ. Прысутнасьць іконы сьв. Еўфрасіньні Полацкай, беларускага сьцягу і добрая беларуская мова а. Ігара надалі ўрачыстасьці павагу й выразны нацыянальны адценак. Напрыканцы малебну а. Ігар адслужыў кароткую паніхіду «па ўсіх загінуўшых воінах-беларусах, якія аддалі жыцьцё за свабоду свае зямлі», а беларускаму народу было прапяяна «Многая лета».

З царквы ў Беларускі Клюб. Тут у паўнюсенькай залі быў зроблены даклад на тэму дня Міхасём Лужынскім. Дакладчык сканцэнтраваў увагу на дакумэнтацыю падзеяў у тагачаснай савецкай і іншамоўнай прэсе. Прамаўляў сп. М. Зуй. Афіцыйная частка закончылася адсьпяваньнем гімну.

Адбыўся супольны абед. У сяброўскай атмасфэры гучэлі песьні, ішлі гутаркі, успаміны, завязваліся новыя знаёмствы. Пацешальны факт, што да нас у Аўстралію цяпер пакрысе пачалі прыяжджаюць новыя імігранты. Іх ужо налічваецца 8 сем'яў. Дай Бог, каб прыбывалі яны часьцей: такім чынам забасьпечыцца будучыня беларускай калёніі ў Аўстраліі.

**М.Л.**

## АДЭЛЯЙДА, АЎСТРАЛІЯ

Сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага паўстаньня, наладжанае Беларускім Аб'еднаньнем і парафіяльнай управай, адбылося 6 сьнежня. Царква была ўпрыгожана жывымі кветкамі. Айцец Міхась адслужыў пасьля літургіі паніхіду па Слуцкіх гэроях. У сьцяжной варце стаялі зь беларускім і аўстралійскім сьцягамі спсп. Мікола Колес і Мікола Кандрусік. Вельмі прыгожа пяяў царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. У. Калесьніковіча. Пасьля багаслужбаў адбыўся супольны абед, на пачатку якога былі адсьпяваныя беларускі нацыянальны гімн і жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў». Старшыня сп. Колес прачытаў атрыманыя ад беларускіх арганізацыяў прывітаньні, а таксама рэфэрат на тэму дня па-беларуску й па-ангельску.

Па заканчэньні афіцыяльнае часткі абед праходзіў пад тосты і беларускія песьні.

**Ул. Акавіты**

## РАСЕЙЦЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ АРМІІ

Паводля газэты «Красная звезда» (3.XI.92), у Беларускай ваеннай акрузе, на аснове якое творыцца цяпер беларускае войска, «афіцэрскі корпус складаўся амаль на 80 працэнтаў з расейцаў». «Адначасна больш за 40 тысячаў беларусаў (дадзеныя з красавіка) служаць цяпер у збройных сілах іншых дзяржаў. Шмат хто зь іх выказаў жаданьне скончыць сваю службу на роднай зямлі».

Міністар абароны РБ Павал Казлоўскі сказаў газэце «Красная звезда», што нацыянальны склад беларускай арміі пачынае мяняцца ў бок большае прапорцыі беларусаў. Да сярэдзіны 1993 году, на думку Казлоўскага, у войску рэспублікі «каля палавіны афіцэрскага складу» будуць станавіць беларусы. Міністар абароны сказаў таксама, што каля 10 тысячаў афіцэраў-беларусаў, якія служаць цяпер вонках Беларусі, выказалі жаданьне вярнуцца на радзіму.

## АРМІЯ: МАБІЛІЗАЦЫЯ НІЖЭЙ УЗРОЎНЮ

Беларускія вайсковыя камісарыяты выслалі да 10 лістапада летась 35.311 позваў навабранцам. Але на прызыўныя пункты не зьявілася 3.601 асоба. З тых, што зьявіліся, 3.939 выявіліся нягоднымі да вайсковай службы дзеля стану здароўя. 4.460 прызыўнікоў былі адасланыя на дадатковы мэдычны агляд, а 9.229 навабранцаў адтэрмінавалі дзеля розных прычынаў. Такім чынам, у распараджэньні вайсковых камісарыятаў засталося каля 14.000 прызыўнікоў. Зь іх 67 працэнтаў заявілі, што яны ня хочуць служыць у войску. А тымчасам паводля пляну беларуская армія павінна была папоўніцца мінулае восені на 20.800 жаўнераў.

Народны дэпутат палкоўнік Леанід Прывалаў, падаючы гэтую статыстыку на сэсіі Вярхоўнае Рады, заклікаў парлямэнт прыняць адпаведнае заканадаўства, каб выправіць становішча, паколькі колькасна збройныя сілы рэспублікі стаяць ніжэй належнага ўзроўню.

(Паводле «Красной звезды» 19.XI.92, FBIS 24/XI)

## БЕЛАРУСКАЯ ПРЫСЯГА

Беларускі Парлямэнт зацьвердзіў 10 лістапада тэкст вайсковае прысягі і пастанавіў, каб да 31 сьнежня 1992 году ўсе жаўнеры беларускай арміі, пагранічнай і нутраной аховы, а таксама КДБ склалі прысягу на вернасьць Беларусі. (Interfax, FBIS 12/XI)

## «ЗВАЖАЙ» № 1(69)

У першым сёлетнім нумары вэтэранскага часапісу, які выходзіць у канадзкім горадзе Таронта, зьмешчаныя (на 8 старонках) артыкулы: Шлях да Бога ня йдзе толькі праз Маскву й Варшаву; К. Акула — На Бацькаўшчыне; Спатканьне (сп. Кастуся Мерляка) у кабінэце старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь; нататкі, хроніка. Нумар ілюстраваны.

# НАВЕДАНЬНЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ-БЕЛАРУСІ

*(Працяг з папярэдняга нумару; пачатак у нумары 395-м)*

**У гасьцінных віленскіх беларусаў**

У чацьвер (30 ліпеня 1992 г.) раніцай выехалі аўтобусам адведаць нашых суродзічаў у Вільні. Нас спаткалі перад Вострай Брамай зь беларускім сьцягам і плякатамі беларусы Вільні. Вітаў нас сп. Хведар Нюнька, сябра рады згуртаваньня «Бацькаўшчына», і сп. Валентын Стэх, старшыня Каардынацыйнай Рады Беларускіх Згуртаваньняў у Летуве. Нашым праваднікам па Вільні быў ведамы Лявон Луцкевіч, які вельмі добра й падрабязна азнаёміў нас з аб'ектамі беларускага адраджэньня й культурнага жыцьця. Мы адведалі месца пакараньня сьмерцю Кастуся Каліноўскага, майстэрню мастака Ул. Кузьменкі, пабылі на ўрачыстасьці адкрыцьця помніка на магіле драматурга Францішка Аляхновіча. Наведалі мы таксама кіёск беларускіх сувэніраў, (яго фінансаваў




*Спатканьне ў Вільні ля Вострай Брамы 30.VII.1992 г.*

*(Працяг на 6-й ст.)*

## ПРЫНЯЦЦЁ Ў БЕЛАРУСКАЙ МІСІІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Ад часу абвешчаньня сувэрэнітэту Беларусі ў ліпені 1990 году, паміж прадстаўніцтвам Рэспублікі Беларусь пры ААН і беларускай эміграцыяй у ЗША існуюць добрыя дачыненьні й супрацоўніцтва. У вялікай меры гэта заўдзячваецца былому працаўніку місіі сп. Алегу Пашкевічу і сучаснаму кіраўніку прадстаўніцтва сп. Генадзю Бураўкіну, якога амэрыканскія беларусы ведаюць як добрага паэта, шчырага патрыёта Беларусі, а цяпер, пасьля шматразовых сустрэчаў зь ім, і як здольнага дыплямата. Беларусы Амэрыкі цэняць факт збліжэньня з прадстаўнікамі Беларусі ў Нью-Ёрку і Вашынгтоне, знаходзяць зь іхнага боку дапамогу ў афармляньні рознага роду дакумэнтаў, дастаюць інфармацыю, публікацыі й г.д. Із свайго боку сп. Бураўкін і ягоныя супрацоўнікі дацэньваюць таксама факт лучнасьці з амэрыканскімі суродзічамі. Дэманстрацыяй такога стаўленьня да эміграцыі было прыняцьцё, якое беларускае прадстаўніцтва наладзіла ў сваім прасторным будынку ў Глен-Кове 19 сьнежня. На таварыскую бяседу былі запрошаныя прадстаўнікі беларускага грамадзтва Нью-Ёрку, кіраўнікі арганізацыяў і некаторыя амэрыканскія прыяцелі Беларусі. Застольле прайшло ў цёплай сяброўскай атмасфэры, з абодвух бакоў узьнімаліся тосты за супрацоўніцтва на карысьць Беларусі й Амэрыкі, за прагрэс дэмакратыі й беларускага адраджэньня. Сустрэча была выдатнай нагодай бліжэй пазнаёміцца з новымі працаўнікамі Місіі Рэспублікі Беларусь пры ААН, замацаваць папярэднія знаёмствы. Гэткія кантакты пашыраюць базу амэрыканска-беларускага супрацоўніцтва, якое патрэбнае абодвым бакам.

## СУСТРЭЧА З РЭДАКТАРАМ «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ»

У Фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью-Ёрку адбылася 26 сьнежня сустрэча беларусаў Нью-Ёрку й ваколіцаў з галоўным рэдактарам органу Вярхоўнага Савету Беларусі «Народная газета» Іосіфам Сярэдзічам. Прыехаўшы ў Злучаныя Штаты з кароткім візытам, сп. Сярэдзіч, дэпутат ВС рэспублікі, знайшоў час на сустрэчу зь землякамі, каб расказаць пра апошнія падзеі ў Беларусі, падзяліцца сваімі меркаваньнямі што да бліжэйшае будучыні. На сустрэчу прыбыў таксама беларускі пасол пры ААН сп. Генадзь Бураўкін.

Шаноўнага гасьця, сп. Сярэдзіча, прадставіў аўдыторыі рэдактар газэты «Беларус» Янка Запруднік. Сп. Сярэдзіч расказаў коратка пра сябе. Паходзіць ён з заходняга Палесься. Рэдактарам «Народнай газеты» стаўся з волі Вархоўнага Савету. Рэдагададь газэту парлямэнту, у якім прадстаўленыя самыя розныя палітычныя партыі, справа вельмі няпростя. Але, як відаць з усяго, сп. Сярэдзіч добра спраўляецца з гэтым заданьнем, аб чым сьветчыць сталы рост тыражу «Народнай газеты», які ў 1992 годзе перавысіў 400.000 экзэмпляраў, а на першую палавіну 1993-га, як паказала папярэдняя падпіска, дасягнуў 570.000 экзэмпляраў («СБ», 17.XII).

«Народная газета» двумоўная, беларуска-расейская. Двумоўнасьць ейная, як паясьніў рэдактар «НГ», прадыктаваная тым, што шмат якія чытачы ня ведаюць беларускае мовы. Цяжкасьцяў у беларускім жыцьці хапае, сказаў дакладчык, гэта і засуха, і спад вытворчасьці, і засільле кансэрватараў, і апатыя, зьняверанасьць грамадзтва. Тым ня менш, адраджэньне Беларусі, хоць і зь вялікімі цяжкасьцямі, ідзе наперад.

Тлумачачы прычыны правалу рэфэрэндуму, сп. Сярэдзіч сказаў, што супраць рэфэрэндуму галасавалі шмат якія дэпутаты нават з дэмакратычнымі паглядамі, і толькі дзеля таго, каб захаваць за сабой на лішні год дэпутацкае месца.

На думку рэдактара «НГ», ВС Беларусі прыйме сёлета канстытуцыю, але гэта ня будзе канчальны варыянт, бо трывалага канстытуцыйнага закону пры сучасным складзе парлямэнту нельга выпрацаваць. Што да новых выбараў у ВС, дык яны пройдуць на думку Сярэдзіча, на абноўленай аснове і дадуць больш працаздольны склад парлямэнту.

Вяртаньня назад да імпэрыі больш на будзе, сказаў сп. Сярэдзіч, бо людзі ўжо ня тыя.

У часе прыняцьця, якое было наладжане ўправай Фундацыі Крэчэўскага, слухачы і некаторыя блізкія суседзі па Палесьсі мелі нагоду прыватна пагутарыць з гасьцём, дагаварыцца зь ім на далейшыя спатканьні на Бацькаўшчыне.

Ньюёркаўцы мелі нагоду таксама пазнаёміцца зь іншым цікавым наведнікам зь Беларусі, настаўнікам з Гарадзеншчыны, сп. Сяргеем Дроздам. Сп. Дрозд — энтузіяст краязнаўчага руху і нацыянальнага адраджэньня, аўтар артыкулаў у абласным і рэспубліканскім друку на літаратураведныя і гістарычныя тэмы (прыкладам, у ЛіМе за 1 мая 1992 г. ягоны артыкул «Беларускія вольніцы»). Сустрэчы з такімі людзьмі, як спсп. Іосіф Сярэдзіч і Сяргей Дрозд пераконваюць, што Беларусь жыве, і мае шансы выжыць.

На просьбу сп. Сярэдзіча даць яму ў «Народную газету» які-небудзь матар'ял, рэдактар «Беларуса» даў свой артыкул «Як Менск (праз Маскву?) 'інфармуе' сьвет аб Беларусі». Артыкул (зьмешчаны ў гэтым нумары «Беларуса») быў апублікаваны ў «Народнай газеце» за 13 студзеня сёлета.

**Я.З.**

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МЕНШАСЬЦЬ У БЕЛАРУСІ — БЕЛАРУСЫ

Сяргей Законьнікаў, рэдактар часапісу «Полымя», сказаў газэце «Звязда»:

«Сёньня, калі разглядаць наша грамадзтва з пункту гледжаньня нацыянальнай мовы, культуры, трэба праўдзіва канстатаваць, што нацыянальнай меншасьцю стала ў рэспубліцы карэннае насельніцтва — беларусы, многія зь якіх не валодаюць роднаю моваю, ня ведаюць уласнай гісторыі, згубілі нацыянальныя арэнціры. (...)

«Няўклюдныя нападкі, беспардонная хлусьня ў адрас сьвядомай і актыўнай нацыянальнай інтэлігенцыі поўнуць ня толькі старонкі прабальшавіцкіх, але і праімпэрскіх газэт, якія, як пустазельле, запаланілі пад вэрхал перабудовы і бязладзьдзя ўсю інфармацыйную прастору Беларусі. Іх атака на палітычную, эканамічную незалежнасьць, сувэрэннасьць рэспублікі, на беларускую мову, культуру становіцца апошнім часам усё больш нахабнай і цынічнай, бо 'працуюць' яны, прымерваючыся да падзей, што разгортваюцца цяпер у доме 'магутнага ўсходняга суседа'. Многія абаронцы імпэрыі, як і ў час жнівеньскага путчу, ужо задаволена пляскаюць у ладкі». — «Зьвязда», 16.XII.92

## СУСЬВЕТНЫ ФОРУМ БЕЛАРУСАЎ АДБУДЗЕЦЦА Ў МЕНСКУ 4-7 ЛІПЕНЯ 1993 ГОДУ. БАЦЬКАЎШЧЫНА КЛІЧА!

## ПРЫЯРЫТЭТЫ РАСЕЙСКАЙ РАЗЬВЕДКІ Ў БЕЛАРУСІ

«Беларуская камуністычная намэнклятура не спадяецца на свае сілы. Яна па традыцыі прадажная, таму схільная, каб захаваць уладу любымі сродкамі, абаперціся на чужую сілу і чужую палітыку. На прасторах Беларусі цяпер вольна дзейнічаюць разьведкі ўсяго сьвету, нават новастворных дзяржаваў. Прыярытэтам карыстаецца расейскае КДБ і расейская разьведка, якая тут поўнасьцю валодае становішчам, а нядаўна нават заключыла фармальне пагадненьне аб супрацоўніцтве 'ў вобласьці зьнешняй разьведкі' з Камітэтам дзяржбясьпекі Беларусі.

«Падрыўная дзейнасьць расейскай разьведкі стала ўжо адчувацца ня толькі ў войску, але і ў працэсах нашага грамадзтва, асабліва ў прапагандзе. Не сумняваюся, што хутка гэтая падрыўная 'праца' чужой разьведкі стане парадметам абмеркаваньня ў палітычных колах і нават прывядзе да адпаведных захадаў». — **Зянон Пазьняк** *у дакладзе на соймавай канфэрэнцыі БНФ па вайсковых пытаньнях 25.09.1992, «Выбар» №20(26), кастрычнік 1992.*

## ХТО БАНДЫТ?

*(Заканчэньне з 2-й ст.)*

нашай гісторыі.

Сп. Шыркоўскі, пара зьняць статую Дзяржынскага, ведамага злачынцы, і паставіць статую Кастуся Каліноўскага. Пара таксама паставіць помнікі слуцкім паўстанцам і ўсім тым, хто аддаў жыцьцё, каб жыла Беларусь. Хіба ж Вам няма патрэбы паглядзець кожнае раніцы на Дзяржынскага, каб набраць натхненьня да далейшай працы на карысьць нашай сувэрэннай Рэспублікі. Нам тэрор не патрэбны. Хочацца забыцца на некаторыя мамэнты мінуўшчыны ды пачаць нам усім разам будаваць сьвятлейшую будучыню.

З пашанай **Б. Рагуля**

## СУСТРЭЧА З ДЭПУТАТАМ СОЙМУ

29 сьнежня ў Сойме Летувіскай Рэспублікі адбылася неафіцыйная сустрэча прадстаўнікоў грамадзкасьці Летувы са старшынём Камітэту па правах чалавека, грамадзянству і нацыянальных пытаньнях, дэпутатам Сойму сп. Міндаўгасам Стаквілявічусам. Падчас сустрэчы, якая прайшла ў цёплай абстаноўцы, адбыўся абмен думкамі наконт адраджэньня ў Вільні беларускай гімназіі, музэя, хутчэйшага вырашэньня лёсу трох дамкоў на вуліцы Жыгімонта, 12, дому-музэя Якуба Коласа ў Павільнісе і музэя-кватэры Пётры Сяргіевіча на вул. Антокальскай, 30. Была зьвернута ўвага на ўзьніклыя цяжкасьці з атрыманьнем летувіскага грамадзянства тымі жыхарамі-беларусамі, якія не змаглі аформіць яго да 3 лістапада 1991 году, а таксама тымі, хто пасяліўся ў Летуве пазьней; на неабходнасьць увядзеньня ў Сойме Летувіскай Рэспублікі квоты для прадстаўнікоў асноўных нацыянальных меншасьцяў; на пагранічны рэжым і абмен дыпляматычнымі і гандлёвымі прадстаўніцтвамі паміж Летувой і Беларусьсю.

З боку беларускіх згуртаваньняў у Летуве ўдзел у сустрэчы ўзялі: старшыня клюбу «Сябрына» Валянцін Стэх і старшыня Таварыства беларускай культуры Хведар Нюнька.

**В.С.**

## *ПЫТАНЬНЕ СП. ВЯЧАСЛАВУ КЕБІЧУ*

На сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй рэспублікі ў мястэчку Мір у сьнежні летась прэм'ер Беларусі В. Кебіч сказаў: «Той факт, што сёньня многія беларусы ня ўмеюць чытаць, а часамі саромеюцца гаварыць на роднай мове і ня могуць пераадолець гэты сорам, лішні раз пацьвярджае, якія вялізарныя страты мы маем у нашым нацыянальным мэнталітэце». («СБ», 23.XII.92).

Паколькі наданьне афіцыйнага статусу расейскай мове ў Беларусі толькі паглыбіла-б закамплексаванасьць беларусаў у дачыненьні да свае мовы і павялічыла-б «страты ў нашым нацыянальным мэнталітэце», пытаемся ў сп. Кебіча: ці робіць што-небудь ён сам і ягоны ўрад, каб не дапусьціць да гэткіх стратаў, г. зн. прадухіліць разгляд у Вярхоўным Савеце рэспублікі зьневажальнага для нацыянальнае годнасьці беларуса і згубнага для справы беларускае дзяржаўнасьці пытаньня аб афіцыйным статусе ў сувэрэннай Беларусі мовы суседняе дзяржавы?

## BELARUSIAN REVIEW — НАША ВІЗЫТНАЯ КАРТКА

Вось толькі атрымаў апошні нумар Belarusian Review («Беларускага Агляду») і хачу зьвярнуць увагу чытачоў на багаты зьмест як гэтага, так і папярэдніх нумароў. Тут я знайшоў багатую інфармацыю з жыцьця ў Рэспубліцы Беларусь. Весткі хоць кароткія, ды зьмястоўныя — ад палітычных падзеяў, эканамічнай сытуацыі да літаратуры й культурнага жыцьця: праект новай канстытуцыі, рэлігійныя справы, міжнародныя адносіны ды найважнейшае, хіба, — інфармацыя заходняму сьвету аб магчымасьцях інвэстыцыяў у Беларусі. На добры лад, гэты часапіс павінен быць фінансаваны нашай дзяржавай, бо гэта — візытная картка нашай дзяржавы. Цяпер, калі нас пытаюцца аб Беларусі, лёгка даць інфармацыю — даць у рукі нумар «Агляду». Часапіс гэты павінен быў-бы выходзіць большым тыражом. Аднак пры сьціплых магчымасьцях сп. Язэпа Арцюха гэта немагчыма. Яму патрэбная дапамога. Калі нашая дзяржава ня можа ці ня хоча, дык наш абавязак тут на эміграцыі выканаць гэтае заданьне. Я заклікаю тут ня толькі прыватных людзей, але ў першую чаргу ўсе грамадзкія арганізацыі даць грашовую дапамогу, каб пабольшыць тыраж выданьня. Гэта дасьць магчымасьць шырэй распаўсюдзіць інфармацыю пра Беларусь. Кожны пасол, сэнатар і кангрэсмэн павінен атрымваць гэты часапіс. Мы мусім забясьпечыць, каб кожнае большае ці меншае прадпрыемства даставала гэтую каштоўную інфармацыю пра нас і пра нашую дзяржаву. Так як нашая газэта «Беларус» зьяўляецца візытнай карткай нашай эміграцыі, так «Беларускі Агляд» — наша візытная картка для ўсяго англамоўнага сьвету.

Я разумею цяжкасьці кожнага з нас. Шмат дзе патрэбная фінансавая дапамога, але калі мы ўзважым вышэй сказанае, дык можа нам удасца дасягнуць мэту — пабольшыць тыраж і пашырыць распаўсюджваньне «Беларускага Агляду», прынамся да часу, калі Рэспубліка Беларусь пяройме гэтую важную функцыю.

**Б. Рагуля**

# НАВЕДАНЬНЕ...

*(Заканчэньне з 4-й ст.)*

аддзел БАЗА ў Кліўлендзе), купілі сабе ў ім шмат чаго на памяць. З кіёску цяпер маюць дапамогу арганізацыі. Пабылі ў Доме прафсаюзаў, у якім праходзіў устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту. Тут адбыўся сход, на якім абмяркоўваліся грамадзкія справы віленскіх беларусаў.

Нашы гаспадары зарганізавалі нам невялікі канцэрт народных песьняў у добрым выкананьні Леаніда Мурашкі. Падарозе пабачылі тры будынкі, якія летувіскія ўлады паабяцалі аддаць беларусам на грамадзкія патрэбы.

Візыт закончыўся вячэрай у рэстаране, у часе якое з тостамі выступілі С. Крарніловіч, К. Калоша і Оля Лукашэвіч. Яны віталі беларусаў Вільні, адзначаючы іхную вялікую самаахвярную працу, дзякавалі за шчырае прыняцьцё й пажадалі добрых посьпехаў у далейшай працы. Увечары ад'ехалі ў Полацак.

**Полацак: сабор Сьв. Сафіі**

Раніцай нас спаткалі актывісты «Бацькаўшчыны»: пісьменьнікі Алесь Аркуш (Казак), Ірэна Жарнасек і Навум Гальпяровіч. Найперш мы наведалі жаночы манастыр, дзе спаткаліся зь Епіскапам Полацкім Дзімітрыем. Ён павёў нас у капліцу сьв. Еўфрасіньні Полацкае, адкрыў ейны гроб, і мы пакланіліся яе мошчам.

Епіскап гутарыў па-расейску, але заэначыў, што трэба рыхтаваць людзей, каб перайсьці на беларускую мову. Расказаў пра рамонт будынкаў. Запрашаў на сьвяткаваньне тысячагодзьдзя Полацкае епархіі. Епіскап Дзімітры сказаў, што ён стараўся ўвесьці еўфрасіньнеўскі крыж у сваёй юрысдыкцыі, але людзі яшчэ гэтага не зразумелі і пакінулі старыя крыжы, а еўфрасіньнеўскія пачынаюць ставіць у новых цэрквах. Цікава адзначыць, што шмат хто зь іншых краінаў прыяжджае сюды дапамагаць працай у рамонце манастыра й царквы. І так, мы сустрэліся з амэрыканскімі скаўтамі, якія ўжо трэці тыдзень памагалі ў рэстаўрацыйных работах. Яны ўсе праваслаўныя, грэцкага паходжаньня з-пад Нью-Ёрку. Сумавалі яны крыху па доме, але гэта было вясёлае спатканьне.

Наведалі мы й велічны Сафійскі сабор, што стаіць над Дзьвіною. Пабудаваны ў 1044-1066 гадох, ён быў перабудаваны ў часе расейскай акупацыі за часамі Пятра І-га ў склад пораху, і калі ў 1710 годзе порах узарваўся, цэлы верх быў зьнесены. У 1750 годзе на старым фундамэнце быў пабудаваны новы сабор. Падвал цяпер адкрыты для публікі — наведнікі могуць пабачыць цікавы фундамэнт з адзінаццага стагодзьдзя.



*Ля сабору Сьв. Сафіі ў Полацку. Фота А. Крыштаповіча*



*Сустрэча зь Епіскапам Дзімітрыем перад капліцай Сьв. Еўфрасіньні у Полацку 31 ліпеня 1992 г.*

Рэгулярных багаслужбаў у саборы ня бывае, адпраўляюцца толькі некаторыя службы і даюцца музычныя канцэрты.

**У гістарычным і тэатральным Віцебску**

Тут нас спаткалі з кветкамі ў тэатры імя Якуба Коласа. Вітаў дырэктар тэатру Гэральд Асьвяцінскі. Азнаёміліся з прыгожым будынкамі тэатру, які мае сцэну з мадэрнай акустыкай. Усё нам вельмі спадабалася. Гэта адзін зь лепшых тэатраў Беларусі, у штаце якога налічваецца каля 100 сталых артыстаў і каля 80 часовых. З усяго было відаць, што коласаўскі тэатр актыўны й вельмі папулярны.

Знаёмячыся крыху з горадам, мы наведалі дом, дзе жыў сусьветнай славы мастак Марк Шагал, пабачылі помнік яму, які быў адкрыты ў 1992 годзе зь вялікай цырымоніяй. Шкада толькі, што не змаглі дастаць ніякага выданьня твораў мастака.

Нас вельмі цікавіла пабачыць абласны дзіцячы шпіталь, дзе ляжаць дзеці хворыя ад чарнобыльскай радыяцыі. Спаткаў нас там галоўны доктар Іван Какушкін з прадстаўнікамі прэсы й тэлебачаньня. Сяргей Карніловіч перадаў шпіталю дзесяць пачак мэдыкамэнтаў ад нашае кліўлендзкае царквы. Др. Какушкін сказаў нам, што цяпер у шпіталі знаходзіцца каля 200 дзяцей; многія з хворых дзяцей паехалі на лета дамоў. Найбольшая праблема для шпіталя — нястача лекаў і інструмэнтаў. Мы наведалі дзьве палаты з хворымі дзяцьмі, па восем ложкаў і палаце. Усё выглядала чыста, але стан дзяцей і выгляд іх пакінулі нас у цяжкім настроі.

Пад вечар вярнуліся ў тэатр, дзе адбылася прэсканфэрэнцыя. Ад нашай групы выступалі С. Карніловіч, К. Калоша, і О. Лукашэвіч. Мы расказалі пра жыцьцё беларусаў у Амэрыцы, аб тым, як мы захавалі сваю мову, культуру, песьню, нацыянальную сьвядамасьць; выказалі сваю радасьць, што нарэшце змаглі наведаць Беларусь. Адказалі на пытаньні з публікі. На завяршэньне жаночы хор пад кіраўніцтвам О. Лукашэвіч і пад акампанімэнт Хведара Паўлаўца выканаў песьні «Я ад вас далёка», «Поле ты, поле» і «Роднае слова». Слухачы былі захопленыя, як пра гэта сьветчылі іхныя воплескі.

Артысты коласаўскага тэатру паказалі нам п'есу «Вежа». Дзея адбываецца пасьля абвешчаньня сувэрэннасьці Беларусі. Чалавек задумаў пабудаваць найвышэйшую ў сьвеце вежу. Навіна разьнеслася па цэлым сьвеце. Да будаўніка вежы пачалі прыяжджаць сваякі з Амэрыкі. Мясцовыя ўлады ня ведалі, як рэагаваць на гэта. Глядзець беларускамоўную п'есу было вельмі цікава й прыемна.

На супольным з артыстамі банкеце ў сталоўцы тэатру дырэктар Г. Асьвяцінскі дзякаваў гасьцям за прыезд. Уздымаліся ўзаемныя тосты, выказваліся пажаданьні цясьнейшага супрацоўніцтва і плённай працы ў будучыні. У часе банкету выступалі мясцовыя ансамблі, харавыя й музыкальныя, а ў канцы пад аркестру адбыліся танцы, што прайшлі ў вельмі добрым настроі. І гэтак, пад першую гадзіну раніцы, разьвітаўшыся са сваімі гасьціннымі гаспадарамі, мы ад'ехалі аўтобусам у Менску, адкуль разьехаліся па сваіх родных і знаёмых.

*(Працяг у наступным нумары)*

**Кастусь Калоша**

---

***ВІТАЕМ***

з 65-мі ўгодкамі жыцьця, якія споўніліся 1 студзеня сёлета,

**СП. МІКОЛУ ПРУСКАГА**

шматгадовага беларускага дзеяча ў Злучаных Штатах, выдаўца й рэдактара часапісу «Беларускі Сьвет», дарадніка кампаніі «Апджон», якая шмат дапамагае ахвярам чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

---

## «СВАБОДА» РАСЬЦЕ

Незалежная менская газэта «Свабода» (рэдактар Ігар Герменчук, выдавец Павал Жук) расьце і сваім зьместам, і пэрыядычнасьцяй выхаду. Як даведваемся з кастрычніцкага нумару гэтай цікавай публікацыі, ад пачатку новага 1993 году «Свабода» будзе выходзіць штотыднёва. Падпіску на яе (30 дал. на год) і ахвяры на выдавецкі фонд можна слаць на адрас сп. Сяргея Карніловіча: Mr. S. Karnilovich, 11022 Webster Rd., Strongsville, OH 44136.

## АЛЯКСАНДАР КЛЫБІК ШУКАЕ ДЗЕДА БАРЫСА КЛЫБІКА

Дзед Барыс нарадзіўся ў вёсцы Хадзевічы на Слонімшчыне. Падчас вайны быў вывезены ў Нямеччыну. Па вайне напісаў адзін ці два разы да сваіх родных кажучы, што жыве ў Бэльгіі. Быў ён тады жанаты другі раз з полькай і меў дзьве дочкі. Пошукі ў Бэльгіі вынікаў не далі. Можа хто-небудзь з чытачоў чуў што-небудзь пра Барыса Клыбіка? Унук Аляксандар Клыбік будзе ўдзячны за ўсякую вестку. Ён жыве пад адрасам:

224013 Брэст
Морча, 3, кв. 41
Беларусь

## КАЛЯДНА-ВІНШАВАЛЬНАЯ ПАПРАЎКА

У калядна-навагодніх віншаваньнях былі прапушчаныя прозьвішчы наступных асобаў, што віншавалі сваякоў і прыяцеляў са сьвятамі:

*Найдзюк Юзэфа, Часлаў і сям'я*
*Стасевіч К.*
*Чарнэцкая А.*

Выбачаемся за недагляд

**Рэдакцыя «Беларуса»**



*Сп-ня Брэнда Эдгар, Першая Лэйды штату Іліной, вітае Тыфані Андрэрсан, прадстаніцу беларускае грамады, на дзіцячым этнічным сьвяткаваньні.*

## НОВАЯ КАСЭТА ДАНЧЫКА

Паведмляем, што выйшла новая касэта Данчыка. Гэтым разам Данчык сьпявае пад акампанемэнт вядомага беларускага кампазытара Яўгена Магаліфа. Бальшыня песьняў у ягонай апрацоўцы. На касэце запісана 14 песьняў: рамансы, патрыятычныя, народныя. Цана касэты 20 амэр. даляраў, перасылка 1.50. Замаўляць касэту й прысылаць чэкі на наступныя адрасы:

Vera Bartul
146 Sussex Drive
Manhasset, N.Y. 11030

або

Julia Andrusyshyn
430 E. 6th St. Ap. 3C
New York, N.Y. 10009



## СЬВ. ПАМ. МІКОЛА СКАБЕЙ

**(23.X.1905 — 7.XII.1992)**



Адыйшоў на вечны супачынак сьв. пам. Мікола Скабей, нястомны змагар за незалежную Беларусь. Сын Юльяна і Зосі з дому Кулеш, нарадзіўся ў засьценку Гумнічы Вязынскай воласьці Вялейскага павету. Бацькі, узяўшы на выплату 130 дзесяцін пасекі з гаспадарскімі будынкамі (урочышча Гумнічы), былі вельмі працавітыя і ўсіх дзяцей навучылі любіць працу. Яшчэ хлапчуком Мікола два леты пасьвіў жывёлу, а ў адзінаццаць год пачаў араць і касіць. Па сканчэньні народнай школы вучыўся ў Радашкавічах у гарадзкім вучылішчы, а пазьней у Вялейцы.

Калі Беларусь падзялілі ў 1921 годзе, Гумнічы засталіся 20 км на захад ад польска-савецкай мяжы. У Заходняй Беларусі Мікола вучыўся ў расейскай гімназіі, але скончыў толькі пятую клясу. Далей вучыцца бацька не дазволіў з боязі, што, атрымаўшы вышэйшую асьвету, адмовіцца ад гаспадаркі, як гэта зрабілі два старэйшыя браты Міколы.

У 1926 годзе быў прызваны ў польскае войска, служыў у санітарным батальёне ў Горадні, даслужыўся да рангі старэйшага санітара.

У 1930 годзе Мікола ажаніўся з Настасяй Камінскай. Пасьля вайсковага перашкаленьня ў 1936 годзе (у міжчасе памёр бацька) вярнуўся на гаспадарку. Нялёгкай працай і вялікімі намаганьнямі адбудаваў запушчаную гаспадарку і, здавалася, можна было пачаць нармальнае жыцьцё, калі прыйшло бальшавіцкае «вызваленьне» і няўхільнае раскулачваньне. Навакольныя сяляне адмовіліся раскулачваць яго. Тады савецкая ўлада наклала непасільныя падаткі. Яму пашчасьціла прадаць гаспадарку і перабрацца да сястры ў Вялейку, дзе ўладзіўся на працу. Прыхільны да яго палітрук дапамог атрымаць пашпарт без сакрэтных адзнак. Але загадчык ваенкамату, праверыўшы ягонае сацыяльнае паходжаньне, загадаў за 24 гадзіны пакінуць Вялейку. Было забаронена жыць у радыюсе 20 км ад абласнога цэнтру. Зноў быў змушаны вярнуцца зь сям'ёй у Гумнічы.

Калі прыйшлі немцы, адміністрацыя, дзе жыў сьв. пам. Мікола, была пераважна ў руках палякаў. Польская паліцыя пачала ізноў учыняць зьдзекі над насельніцтвам, а нацыянальна сьвядомых беларусаў прадстаўляць немцам, як камуністаў. Беларускія дзеячы дабіліся згоды нямецкай улады замяніць палякоў беларусамі. На працу былі пакліканыя беларусы, здольныя займаць кіраўнічыя становішчы. Сьв. пам. Міколу Скабею далі становішча раённага начальніка службы аховы парадку. Давялося згадзіцца. Праца была цяжкая й вымагальная. Калі работа наладзілася, уся адміністрацыя ў раёне складалася зь беларусаў і ляяльных да беларускай справы чужынцаў. Знайшоўшы наступніка на сваё месца, папрасіў звальненьня. Зь цяжкасьцямі дастаў яго і пераехаў у Вялейку. Пасьля кароткага адпачынку атрымаў функцыю старшыні няіснуючай управы, якую трэба было зарганізаваць. Пазьней гебітскамісар даў назначэньне за старшыню Жодзінскага павету. Наладзіўшы там працу, вярнуўся ў Вялейку на становішча старшыні гарадзкой управы. Быў удзельнікам 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу.

Эвакуаваўся зь сям'ёй у Ўсходнюю Прусію, дзе ў лістападзе 1944 году ўладзіўся на працу ў маёнтку, бо ехаць далей забаранялася. Адтуль зь вялікімі цяжкасьцямі дабраўся да Баварыі, дзе працаваў у баўэра.

Па капітуляцыі Нямеччыны, як толькі пачала працаваць пошта, наладзіў кантакт зь сям'ёй, даведаўся, што ўсе здаровыя і што ім памагае ягоны брат зь Вільні. Вестка падтрымала на духу. Калі стала магчымым пасылаць пасылкі, памагаў, як мог. Працаваў у адміністрацыі лягероў ДП у Рэгенсбургу і Віндзішэгердорфе. Адтуль эміграваў у Аўстралію, куды прыехаў у чэрвені 1948 году.

Пасяліўшыся ў Мэльбурне, пачаў разам зь іншымі беларусамі арганізаваць грамадзкае жыцьцё. Спачатку быў заснаваны Беларускі Клюб, які пасьля ператварыўся ў Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі. Пазьней, калі дзьве групы, БНР-аўцы і БЦР-аўцы, прыйшлі да паразуменьня, згуртаваньне сталася Беларускім Цэнтральным Камітэтатам, што працуе й сёньня.

Ува ўсіх арганізацыях нябожчык быў актыўным, нястомным працаўніком, выконваў розныя функцыі. У 1988 годзе, каб ушанаваць шматгадовую грамадзкую працу Міколы Скабея, БЦК прызнаў яму ганаровае сяброўства.

У асабістым жыцьці нябожчыка галоўным было памагаць сям'і ды збудаваць дом з надзеяй, што зможа сьцягнуць у Аўстралію жонку. У 1958 годзе пачаў афіцыйныя стараньні: пісаў просьбы савецкім установам і лідэрам, і кожны раз яму адмаўлялі. У 1968 годзе савецкі ўрад паведаміў жонцы, што дазвол на выезд ёй канчальна адмоўлены. Калі хоча, сказалі, хай прыяжджае ён. У травені 1975 году, пасьля апэрацыі на сэрца, жонка скончыла свой цяжкі зямны шлях. Два гады таму пашчасьціла пакойнаму ўбачыцца са старэйшым сынам і нявесткай, якія прыяжджалі да яго.

У травені летась нябожчык перанёс удар сэрца, меў дзьве апэрацыі. Паступова ачуняў, але ўжо быў ня той. Увесь час чакаў на прыезд дачкі і ўнучкі, якім выслаў запросіны. Яны ўжо былі атрыманы пашпарты, толькі чакалі на візу. Але раптоўна стан здароўя нябожчыка пагоршыўся. Два апошнія дні пры ім была сп-ня Вера Шайпак.

У асобе сьв. пам. Міколы Скабея беларусы Мэльбурну страцілі ня толькі грамадзкага дзеяча, але й вельмі добрага сябру. Ён ніколі нікому не адмовіў у дапамозе. Быў вельмі шчырым і гасьцінным.

Увечары 10 сьнежня ў пахавальным доме на Фуцкрой была адслужана паніхіда, а на наступны дзень адбыліся паховіны. Пахавальны абрад выканаў а. А. Кулакоўскі, які ў сваім разьвітальным слове падкрэсьліў нястомную працу нябожчыка на карысьць Бацькаўшчыны. Накрытую бел-чырвона-белым сьцягам труну вынесьлі сябры. Было шмат людзей. Амаль усе паехалі на могілкі Фаўкнэр. Як у царкве, гэтак і на могілках сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам матушкі Кулакоўскай. Разьвітальнае слова над магілай сказаў сп. Ул. Сідлярэвіч. Пахавіны закончыліся жалобным маршам «Сьпі пад курганам гэрояў» у выкананьні хору. Памінальны абед адбыўся ў Беларускім Доме пры поўнай залі людзей.

Выказваем найшчырэйшыя спачуваньні дзецям, унукам і ўсім сваякам на Радзіме.

Вечная яму памяць.

Мэльбурн, Аўстралія

**З. Кадняк**

## СЬВ. ПАМ. МАРЫЯ КІПЕЛЬ

**(14.I.1904 — 14.XII.1992)**



14 сьнежня пасьля даўгое й цяжкое хваробы памерла Марыя Кіпель. Адыйшла яшчэ адна беларуска, якая належала да пакаленьня, прадстаўнікі якога пачыналі нацыянальную працу ў 1920-х гадох, а ў гадох 1930-х за беларускасьць і любоў да Бацькаўшчыны былі выгнаныя зь яе, стаўшыся ахвярамі сталінскага тэрору й генацыду на Беларусі.

Марыя Кіпель нарадзілася ў Менску 14 студзеня 1904 году, як яна часта казала, «у доме насупраць Менскага тэатру», у якім ейны бацька Васіль Зубкоўскі працаваў пры гардэробе ад 1902 году да сярэдзіны трыццатых гадоў. Скончыла адну зь менскіх гімназіяў і ў 1920-м годзе паехала настаўнічаць у вёску Вугляны каля Менску, скуль паходзіў бацька.

Праз маладзёжныя арганізацыі, тэатр і хор Ул. Тэраўскага ўлучаецца ў беларускі нацыянальна-грамадзкі рух. У пачатку 1920-х гадоў заканчвае ў Менску курсы беларусазнаўства, якімі кіраваў Язэп Лёсік. Уплыў Лёсіка й тагачаснае нацыянальнае атмасфэры ў Менску вызначыў на ўсё жыцьцё кірунак працы нябожчыцы. Яна становіцца беларускай настаўніцай, выкладае родную мову й літаратуру ў шмат якіх школах Менску, а галоўнае імкнецца прышчапляць маладому пакаленьню беларускасьць.

У 1924 годзе Марыя Зубкоўская выходзіць замуж за Яўхіма Кіпеля. Напрыканцы 20-х гадоў паступае на лінгвістычна-літаратурны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Вышэйшага Пэдагагічнага Інстытуту, які канчае ў 1932 годзе. У кола сяброў Марыі ўваходзяць Ядзя Бяганская, Жэня Перская, Янка Скрыган ды шмат іншых маладых нацыянальных працаўнікоў, зь якіх шмат хто згінуў у 30-х гадох, ды групавыя фатаграфіі якіх в.п. Марыя гэтак беражна перахоўвала. Гэта была цяжкая пара ў Менску. У часе пагрому нацдэмаўшчыны ў 1930 годзе быў арыштаваны муж Марыі Яўхім Кіпель, дацэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту й старшыня Хаўрусу Беларускае Моладзі. Як жонка нацдэма, Марыя Кіпель не магла нідзе атрымаць працы: перакідвалася як магла, падзарабляючы выпадковай карэктай, перакладамі, прыватнымі лекцыямі. Напрыканцы 1932 году НКУС прапануе ёй выбрацца разам з малым сынам «далей ад Беларусі», найляпей у Вяцкую вобласьць, дзе адбываў ссылку муж. Сям'і аднак ня было суджана зьяднацца. Мужа Марыі перакідаюць у горад Вятку. За год у Вятку пераяжджае і Марыя. Аднак гэта быў пачатак 1935 году, калі скончыўся тэрмін зьняволеньня мужа, і сям'і трэба было выбіраць новае месца жыхарства, бо заставацца ў ваколіцах зьняволеньня было забаронена. Але й паварот на Беларусь быў таксама назаўсёды зачынены. Сям'я пасялілася ў горадзе Арле, дзе Марыі дазволілі працаваць настаўніцай. У канцы-ж 1935 году мужа арыштоўваюць паўторна і гэтым разам «даюць» пяць гадоў зь месцам адбыцьця тэрміну ў Байкала-Амурскіх канцлягерах на Далёкім Усходзе. Марыі дазваляюць застацца ў Арле. Калі ў 1937 годзе Марыі Кіпель выдавалі пашпарт з новай прапіскай, ёй сказалі: «Вам будет значительно легче и проще записаться в паспорте русской». Марыя на гэта не згадзілася.

У 1938 годзе ў Менску ад ейнага бацькі забіраюць хату, якую будаваў уласнымі рукамі, абвінаваціўшы амаль 70-гадовага старога ў тым, што ён — цесьць «ворага народу». Бацьку выкідаюць жыць у хлеў. Марыя атрымвае дазвол забраць хворага бацьку ў Арол. У пакойчыку 9 кв. мэтраў сям'я з трох чалавек жыве да самае вайны.

У 1941 годзе муж адбыў тэрмін пакараньня, але таму, што горад Арол стаўся абласным цэнтрам, Яўхіму Кіпелю не дазваляюць вярнуцца да сям'і, а пасяляецца ён у Бранскай вобласьці.

У 1942 годзе ўсю тую тэрыторыю забіраюць немцы, і сям'і ўдаецца нарэшце злучыцца, каб у чэрвені тагож году вярнуцца ў Менск. Тут Марыя Кіпель працуе ў выдавецтве газэтным працаўніком. У 1944 годзе выяжджае на эміграцыю.

Дзе толькі можна было, Марыя Кіпель працавала настаўніцай: у Бэрліне зарганізавала й кіравала дзіцячы садок; па вайне працавала настаўніцай у Міхэльсдорфе й Бакнангу; у Амэрыцы ад 1949 году старалася вучыць дзяцей роднай мовы, любіць Беларусь. Сваім унукам, Алесі й Юрку, разам з бабкай Апалёняй Савёнак прывіла і веду мовы, і любоў да Беларусі.

Ад 1949 Марыя Кіпель належала да Сьвята-Еўфрасінеўскага прыходу ў Саўт-Рывэры ды на прыходзскіх могілках і пахаваная побач з мужам. У часе памінальнае бяседы, якая адбывалася ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры, успамінамі аб нябожчыцы падзяліліся сп. Антон Шукелойць, які ведаў в.п. Марыю зь менскага пэрыяду 1940-х гадоў. Сп. Мікалай Сіцько прыпомніў, як шмат песьняў рэпэртуару саўтрывэрскага хораў пачаткова напяяла в.п. Марыя Кіпель, якая гэтыя песьні сьпявала ў хоры Тэраўскага. Сп. Янка Азарка адзначыў, якой пашанай нябожчыца карысталася ва ўсіх беларусаў ды выказаў спачуваньне сям'і ад ньюджэрзійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

У прыватным жыцьці сьв. пам. Марыя Кіпель была вельмі сьціплым чалавекам. Напісала некалькі артыкулаў аб Менску і 1930-х гадох ды пакінула нататкі-ўспаміны аб жыцьці на чужыне — у Расеі. Шчыра падтрымвала беларускі друк, арганізацыі.

Зачыняючы бяседу, сын Вітаўт ад імя сям'і — жонкі Зоры, дзяцей Алесі й Юркі з жонкай Лёрэйн — падзякаваў прысутным за ўшаваньне памяці нябожчыцы ды асабліва сп-ням Лідзіі Божка, Надзі Кудасавай і сям'і Сымона Жамойды за падтрымку і хворае Марыі, і сям'і ў цяжкім часе. Ад сям'і была просьба: заміж кветак, складаць ахвяры на газэту «Беларус».

**Сябры**

## ПАМЯЦІ СЯБРА І СУПРАЦОЎНІКА



У 1992 годзе беларускія нацыянальныя арганізацыі ў Вялікабрытаніі страцілі некалькі сваіх сяброў, якія актыўна працавалі на нацыянальнай ніве. Сярод іх асабліва вызначыўся ахвярнай патрыятычнай дзейнасцю сьв. пам. Янка Сяўковіч (ён нарадзіўся 1 красавіка 1920 г. недалёка ад Гарадзеі ў Беларусі, памёр 3 ліпеня 1992 г. ў Лёндане ў Англіі). Пасьля аб'яднаньня Заходняй Беларусі з Усходняй маладым юнаком у дваццацігадовым веку ён уключыўся актыўна ў адраджэньне роднай мовы, культуры і традыцыяў. Па гэтым баявым, патрыятычным шляху ён крочыў бескампрамісова ўсё сваё жыцьцё аж да самай сьмерці. Многа разоў ён уваходзіў у галоўную ўправу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, некалькі разоў выбіраўся яе сакратаром і заўсёды вызначыўся актыўнай, патрыятычнай дзейнасцю для дабра роднай Беларусі і яе народу, ахвярна працаваў для адраджэньня незалежнай Беларусі.

Быўшы ў 1940-50-х гадох сакратаром рэдакцыі часапісу «Патрыёт», які друкаваўся ў горадзе Брадфардзе акругі Ёркшыр, дзе тады жыў Сяўковіч, ён нёс на сабе ўвесь цяжар друкарскай і выдавецкай працы. За гэтую ахвярную працу высока цанілі яго рэдактар часапісу і супрацоўнікі рэдакцыі. Мы надзеемся, што ягоная самаахвярнасьць, скіраваная для адраджэньня вольнай і незалежнай Беларусі, будзе высока ацэненая.

Нахай застанецца па Янку Сяўковічу сьветлая памяць ува ўсіх людзей.

**Супрацоўнікі часапісу «Патрыёт»**

## СЬВ. ПАМ. ЗЫГМУНТ СТАНТОН (СЕНКЕВІЧ)

**22.9.1925 — 19.11.1992**

19 лістапада 1992 г. па цяжкай хваробе адышоў на вечны супачынак Зыгмунт Стантон (Сенкевіч), пакінуўшы ў вялікім смутку жонку Марджары, дачку Караль і двое ўнукаў, Анэту і Робіна, а таксама братоў і сястру ў Амэрыцы і Польшчы.

Нарадзіўся сьв. пам. Зыгмунт у беларускай каталіцкай сям'і ў Ляхавічах. Там ён вырас, вучыўся і працаваў электрыкам да 1944 году. У гэным годзе лёс закінуў яго ў Бэрлін, дзе падчас налёту аліянцкіх самалётаў ён быў паранены і вывезены ў шпіталь у Аўстрыю. Па выхадзе са шпіталя апынуўся ў ангельскай зоне Нямеччыны, уступіў у польскае войска пад брытанскай камандай. Служыў у Італіі ў Другім польскім корпусе ў мэханізаванай брыгадзе як электрамэханік.

У 1946 годзе ягоная часьць пераехала ў Англію. Тут ён спаткаў свайго брата Гэнрыка, пра якога ня меў аніякае весткі. Па дэмабілізацыі з арміі пасяліўся з братам у гор. Ковэнтры, дзе спаткаў сваю будучую жонку Марджары, зь якою ажаніўся ў 1949 годзе. Працаваў на аўтамабільным заводзе Гумбэр-Гільман у аддзеле праверкі якасьці машын. Вечарамі хадзіў на курсы электронікі ў тэхнічную ВНУ. Вучыўся вельмі добра і за колькі гадоў дастаў атэстат электраінжынера. Аўтамабільны завод быў куплены амэрыканскай кампаніяй Крайслера. Тут нябожчык пачаў авансаваць і стаўся галоўным інжынерам праверкі інструмэнтацыі брытанскай групы Крайслера. Пазьней працаваў на такой самай рабоце ў француcкай фірме Пэжо, як і брытанскай фірме Ровэр, адкуль у веку 65 гадоў пайшоў на пэнсію.

Сьв. мап. Зыгмунт быў вельмі разумны ў сваёй рабоце, за што яго вельмі паважалі кіраўнікі заводаў і супрацоўнікі. Ён браў актыўны ўдзел у беларускім эміграцыйным жыцьці, быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі.

Паховіны адбыліся 25 лістапада ў каталіцкім парафіяльным касьцеле сьв. Томаса Мора. Паніхіду адслужыў ангельскі парафіяльны сьвятар. Пры труне нябожчыка была сям'я, сваякі, касьцёл быў перапоўнены сябрамі, парафіянамі й былымі супрацоўнікамі.

Пасьля багаслужбы пахавальны картэж завёз труну на магільнік Лёндан Роўд, дзе адбылося пахаваньне.

Хай Усемагутны Бог дарує яму царства нябеснае і хай ангельская зямля будзе яму пухам.

**С.Б.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю падпіску й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля | 233 |
| І. Сядура | 50 |
| М. і В. Махнач | 50 |
| Н. Мароз | 50 |
| В. Ільшчук | 50 |
| Я. Арцюх | 50 |
| В. Казлоўскі | 40 |
| Н. Кушаль | 30 |
| М. Кулагін | 30 |
| О. Арэхва | 25 |
| С. Сташкевіч | 25 |
| С. Жамойда | 25 |
| П. Пікулік | 25 |
| Н. Касмовіч | 25 |
| І. Аўдзей | 20 |
| Corp. for Prof. Confer. (абвестка) | 200 |
| К. Кумэйша ў сьветлую памяць М. Кумэйшы | 150 |
| У памяць Зыгмунта Стантана (Сенкевіча): | |
| М. Баяроўскі | 25 |
| С. Будкевіч | 25 |
| Заміж кветак на магілу с.п. Б. Шчорса: | |
| І. Аўдзей | 50 |
| С. Грамыка | 20 |
| Заміж кветак на магілу с.п. М. Кіпель: | |
| A. and A. Kamouh | 50 |
| Я. Запруднік | 50 |
| Ф. і В. Бартуль | 50 |
| А. Орса-Рамана | 50 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50 |
| Ю. і П. Андрусышын | 25 |
| Я. Каханоўская | 25 |
| А. Шукелайць | 25 |
| За калядныя віншаваньні: | |
| Н. Кушаль | 10 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| Ю. і П. Андрусышын | 20 |
| Я. Каханоўская | 20 |
| К. Верабей | 10 |
| Разам | 1643 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| З. Кіпель | ам. д. 100 |
| В. Траскевіч | 100 |
| У. Брылеўскі | 100 |
| В. Валаткевіч | 75 |
| Л. Норык | 60 |
| А. Сільвановіч | 50 |
| Кансысторыя БАПЦ | 50 |
| Парафія Жыров. Б.М. БАПЦ | 50 |
| Аддзел БАЗА Н.-Дж. | 50 |
| М. Каранеўскі | 50 |
| С. Гутырчык | 50 |
| В. Балтрушэвіч | 50 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 50 |
| Я. Дзядовіч у памяць дарагога мужа Дзімітра | 35 |
| М. Касьцюк | 30 |
| П. Нягода | 30 |
| Г. Дубяга | 25 |
| С. Янкоўскі | 25 |
| Э. Пітушка | 25 |
| Я. Яновіч | 25 |
| М. Тулейка | 20 |
| а. В. Андрэюк | 20 |
| У. Харавец | 20 |
| Г. Дубяга малодшы | 20 |
| М. Кажура | 20 |
| В. Пашкевіч | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| Я. Сапежынскі | 20 |
| А. Балкоўскі | 20 |
| В. Дубяга | 20 |
| Разам | 1330 |

*Праз нашага прадстаўніка ў Кліўлендзе сп. Андрэя Стрэчаня падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| К. Калоша | 200 |
| Жаночае Згурт. | 100 |
| С. Карніловіч | 50 |
| А. Стрэчань | 50 |
| Міхаіл Стрэчань | 40 |
| Мікалай Стрэчань | 40 |
| Віктар Стрэчань | 40 |
| Ольга Стрэчань | 40 |
| І. Каляда-Сьмірнова | 40 |
| К. Маталыцкі | 40 |
| Я. Каваленка | 40 |
| Я. Ханенка | 30 |
| В. Яцэвіч | 30 |
| Т. Кананчук | 30 |
| А. Яраховіч | 30 |
| а. М. Страпко | 25 |
| Я. Раковіч | 25 |
| С. Махахей | 25 |
| П. Даўмон | 25 |
| А. Сацэвіч | 25 |
| М. Белямук | 25 |
| Разам | 950 |

*Праз нашую прадстаўнічку ў Пэрце ў Зах. Аўстраліі падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| М. Раецкі старэйшы | аўстр. д. 40 |
| Е. Дамброўская | 30 |
| а. В. Зайко | 20 |
| М. Мароз | 30 |
| А. Ніжнік | 30 |
| А. Мароз | 20 |
| М. Раецкі малодшы | 15 |
| А. Бразоўскі | 50 |
| Л. і В. Ласкевіч | 25 |
| Беларускае Згуртаваньне | 80 |
| Р. Чабатар | 20 |
| Разам | 360 |
| у амэр. дал. | 247.50 |

*Праз нашага прадстаўніка ў Адэляйдзе ў Аўстраліі сп. У. Акавітага падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| а. М. Бурнос | аўстр. д. 50 |
| В. Мілянцэвіч | 50 |
| А. Садоўскі | 50 |
| У. Акавіты | 50 |
| П. Пачопка | 50 |
| Е. Трысмакова | 40 |
| А. Руткевіч | 30 |
| Я. Ролсон | 30 |
| В. Зеленеўскі | 30 |
| Разам | 380 |
| у амэр. дал. | 263 |

*Праз нашага прадстаўніка ў Сыднэі ў Аўстраліі сп. Міхася Лужынскага падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| М. Лужынскі (выданыя М. Лужынскім на рассылку «Беларуса») | аўстр. д. 118 |
| С. Нарушэвіч | 100 |
| М. Антух | 60 |
| А. Бакуновіч | 60 |
| М. Бакуновіч | 60 |
| У. Дзядоў (М. Л. у Наваградак) | 60 |
| Л. Грыцай | 60 |
| В. Ліпскі | 60 |
| М. Мілеўскі | 60 |
| Л. Олрайт | 60 |
| Л. Парэцкі | 60 |
| А. Хаванская | 60 |
| У. Родзевіч | 60 |
| У. Русак | 60 |
| М. Сазановіч | 60 |
| К. Сіткоўскі | 60 |
| В. Стукач | 60 |
| С. Яраховіч | 60 |
| Разам | 1060 |
| у амэр. дал. | 768,15 |

З гэтага 50 ам. д. на «Весткі й паведамленьні Аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку».

Сьв. пам. Мікалай Скабей у апошнім сваім звароце да прыяцеляў прасіў, каб ня куплялі кветак для яго, а тыя грошы злажылі як ахвяру на выдавецкі фонд газэты «Беларус». Збор ахвяраў правёў сп. Р. Шайпак і прыслаў нам ніжэй пададзены сьпіс ахвярадаўцаў:

| | |
|---|---|
| В. і Р. Шайпак | аўстр. дал. 40 |
| У. Сідлярэвіч | 30 |
| М. Субач | 10 |
| А. Палікарпоўская | 5 |
| Я. Яшчэнка | 20 |
| А. Груша | 30 |
| У. Алёхін | 20 |
| У. Карп | 10 |
| БЦК у Мэльбурне | 40 |
| В. Русак | 20 |
| Сп-тва Кукель | 20 |
| Г. Лашук | 30 |
| І. Кукель | 20 |
| М. Кадняк | 20 |
| М. Тэрэшкевіч | 20 |
| П. Гуз | 10 |
| А. Грыцук | 10 |
| М. Нікан | 10 |
| З. Кадняк | 20 |
| Н. Яўневіч | 20 |
| В. Груша | 20 |
| Разам | 425 |
| у амэр. дал. | 291,31 |

*Заміж кветак на магілу с.п. М. Скабея сабрана М. Лужынскім у Сыднэі* аўстр. д. 100

Праз нашага прадста*ўніка ў Бірмінгаме ў Англіі сп. Міхася Баяроўскага:*

| | |
|---|---|
| Ф. Верамейка | ам. д. 45 |
| Я. Міхальчык | 30 |
| М. Баяроўскі | 30 |
| С. Буткевіч | 25 |
| П. Грыгальчык | 10 |
| Разам | 140 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| Праз сп. Я. Азарку, Аддзел ЗБАВ у Нью-Джэрзі | ам. дал. 100 |
| Аддзел БАЗА ў Нью-Джэрзі | 100 |
| Н. і В. Сьнежка | 100 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Л. і У. Брылеўскія | 50 |
| А. Рамана ў памяць Марыі Кіпель | 50 |
| М. Нікан (Аўстралія) | 25 |
| Я. Сурвілла (Канада) | 20 |
| А. Субота | 20 |
| І. Цупрык | 15 |
| Я. Калюцік | 15 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| М. Латушкін | 5 |
| Разам | 510 |

***СТУДЗЕНЬ — ПЕРШЫ МЕСЯЦ ГОДУ І ДАЕ ЁН НАМ НАГОДУ ЗА ГАЗЭТУ ЗАПЛАЦІЦЬ, КАБ СПАКОЙНА ЎВЕСЬ ГОД ЖЫЦЬ!***

УВАГА! УВАГА!

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901

**Адміністрацыя**